

**ВЫСТАВУ Леаніда ДУДАРЭНКІ "ЗВАНЫ ПРАВАСЛАЎЯ" АДКРЫЎ ФІЛАРЭТ** 3 стар.

**НАСТАЎНІКАМ ШКОЛ ЧЭРЫКАЎСКАГА РАЁНА ДАВОДЗІЦЦА РАШАЦЬ ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ ЗАДАЧЫ З МНОГІМІ НЕВЯДОМЫМІ** 2—3 стар.



**Алег ТРУСАЎ: "МЭТА ТБМ – АТРЫМАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ РЭАЛЬНАГА СТАТУСА ДЗЯРЖАЎНАЙ"** 3 стар.

**БЯРЭЗІНСКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ** 4 стар.

**ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ**
Юры ПОПКА — СКАРБАШУКАЛЬНІК З ЛЯЙМЭНА 6 стар.



**"ЭВАЛЮЦЫЯ"**
Апавяданне Міколы ГІЛЯ

**ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА** 8 стар.

**ДЭБЮТ**
КАРЫКАТУРЫ Дзімы ДЗЕМ'ЯНКОВА 8 стар.



**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

9 лютага 2000 года
Цана 60 рублёў

№ 6 (2668)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

МІЖНАРОДНЫ АГЛЯД

## ЕЎРОПА ЖАДАЕ БАЧЫЦЬ БЕЛАРУСЬ СВАБОДНАЙ І ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ

Пачатак 2000 года на міжнароднай арэне выдаўся вельмі напружаным для беларускіх палітыкаў. На працягу студзеня "беларускае пытанне" абмяркоўвалася на пасяджэннях дзвюх уплывовых агульнаеўрапейскіх арганізацый — АБСЕ і Савета Еўропы. Еўропа жадала б бачыць беларускую дзяржаву паўнапраўным членам гэтых арганізацый, аднак добрыя адносіны, якія сапсаваліся пасля правядзення ў Беларусі рэферэндуму ў 1996 годзе, не атрымліваецца аднавіць да гэтага часу. Плёну дагэтуль не дала нават работа ў Беларусі Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ, мэтай дзейнасці якой было наладжванне дыялогу паміж беларускімі ўладамі і мясцовай апазіцыяй.

Як у Вене, на пасяджэнні Пастаяннага камітэта АБСЕ, так і ў Страсбургу, на сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, еўрапейскія палітыкі разам з прадстаўнікамі беларускіх уладаў і апазіцыі спрабавалі высветліць прычыны такога становішча і знайсці выхад з сітуацыі.

У Вену была запрошана толькі дэлегацыя апазіцыйнага Вярхоўнага Савета 13 склікання, а намеснік старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Уладзімір Канаплёў прысутнічаў як назіральнік ад Парламенцкай асамблеі Садружнасці Незалежных Дзяржаў. У значнай ступені пасяджэнне Пастаяннага камітэта АБСЕ, на якім выступіў з дакладам кіраўнік спецыяльнай групы па Беларусі Адрыян Севярын, нічога не вырашала. Яно было толькі прэлюдыяй да сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. У Вене канстатаваўся той факт, што місія АБСЕ не здолела выканаць сваю галоўную задачу — арганізаваць дыялог паміж апаніруючымі бакамі на айчыннай палітычнай сцэне і такім чынам прымірыць палітычных сапернікаў. Пры гэтым кіраўнік Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ пасол Ханс-Георг Вік упершыню адкрыта заявіў, што перамовы не адбыліся па прычыне нежадання ўдзелу ў іх афіцыйнага боку.

Такім чынам, асноўныя падзеі разгарнуліся ў Страсбургу. На сесію афіцыйна былі запрошаны як прадстаўнікі апазіцыі, так і прадстаўнікі ўладаў. Першыя ў асобе дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13 склікання, другія — у асобе дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Абодва бакі мелі магчымасць выступіць

(Заканчэнне на 2-й стар.).

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ



Шматвяковая гісторыя Брэста — ад старажытнага Бярэсця да цяперашніх дзён — з дзяцінства займае і хвалюе Анастасію Фяцісаву, якая прысвяціла роднаму гораду многа сваіх карцін, што неаднаразова выстаўляліся як у нашай краіне, так і за мяжой. Працуе Анастасія ў галіне мастацкага праектавання інтэр'ераў будынкаў, манументальна-дэкаратыўнага і станковага жывапісу.

**Фота Рамана КАБЯКА.**

СЛОВА ДА ЧЫТАЧА

**6 красавіка 2000 года споўніцца 45 гадоў з дня выхаду першага нумара газеты "Голас Радзімы". Міналі дзесяцігоддзі, мяняліся ўлады, "Голас Радзімы" таксама мяняўся, але штотыднёвік заўсёды быў беларускай газетай для ўсіх, хто лічыць сябе беларусам. Газета расказвала свету пра Беларусь і беларусаў, клікала на Радзіму. Для многіх яна стала адзінай вестачкай з Бацькаўшчыны. Дык давайце ўспомнім усё самае значнае, што было ў газеце, той след, які пакінула яна ў вашым жыцці.**

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

*Мой родны кут,*
*Як ты мне мілы!*
*Забыць цябе*
*Не маю сілы!*
*(Я. Колас "Новая зямля").*

Родныя мясціны, дзе чалавек нарадзіўся і вырас, застаюцца ў памяці на ўсё жыццё, куды б ні закінуў яго лёс. Для мяне Беларусь — гэта мая Бацькаўшчына. І я заўсёды згадваю гады майго дзяцінства, прыгожыя краявіды беларускага Палесся, жытнёвае поле, у якім то тут, то там віднеецца блакітная кветачка васілёк (валошка). Дзякуй вам за тое, што гэтую кветку як сімвал увялі ў назву газеты "Голас Радзімы".

А галоўнае для мяне, як для беларуса, мая родная мова, якую я ўпершыню пачуў ад маці, дзядуль і бабуль. Звыш сарака гадоў жыву за межамі Беларусі, а вось мову сваю не забываю. Добра, што ў "Голасе Радзімы" з'явілася рубрыка "Я і мова", дзе можна выказаць сваю думку. Жадаю яе вядучаму спадару Яўгену Лецку творчага плёну.

У народзе кажуць: "Нашага цвету па ўсяму свету". Сапраўды так. Сёння за межамі Беларусі жыве тры мільёны беларусаў, палова з іх — у краінах СНД. Згодна са статыстыкай, на Украіне пражываюць чатырыста тысяч нашых суайчыннікаў, якія да гэтага часу лічацца беларусамі. Толькі каля 100 тысяч з іх — у Данбасе. Але штосьці не чуваць, каб тут дзе існавала беларуская грамада ці таварыства. У мінулым годзе ў данецкай газеце "Город" было змешчана паведамленне пра ўтварэнне нацыянальнага культурнага таварыства. Ды і мой уласны зварот

(Заканчэнне на 3-й стар.).

Віктар САБАЛЕЎСКІ

### У ДЗЕНЬ СВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА

**Усміхнецца сонца рана,**
**Нас адорыць святлом дзіўным.**
**Сёння* свята закаханых,**
**Дзень Святога Валянціна.**

**Расцвітуць у сэрцы кветкі**
**Для цябе, маёй адзінай.**
**Ты чаму бываеш рэдка,**
**Дзень Святога Валянціна!!**

**Паасобку сустракаем**
**Мы кахання імяніны,**
**Але нас усё ж яднае**
**Дзень Святога Валянціна.**

**Ён для нас — свята надзеі,**
**Дарагія ўспаміны.**
**Мы з табой яшчэ сустрэнем**
**Дзень Святога Валянціна!**

**14 лютага — Дзень Святога Валянціна, свята закаханых.*



Фота В. СТАВЕРА.

### ВАЛЬС ШАПЭНА

**Зімні вечар. Ціш. Субота.**
**Вальс Шапэна за сцяной.**
**Успамінаў льюцца ноты,**
**Парушаюць мой спакой.**

**Гэты вальс гучаў калісьці**
**Вечар цэлы для дваіх.**
**Адшукаць не мог я выйсця,**
**У вачах тануў тваіх.**

**Пацалункі, быццам пчолы,**
**Асыпалі мяне зноў...**
**Загучаў вальс невясёлы,**
**Развітацца час прыйшоў.**

**Пад мелодыі Шапэна**
**Закружылася зямля.**
**Ты стаяла каралеўнай,**
**Жабраком паехаў я.**

**Яшчэ доўга ў наваколлі**
**Гукі вальса я лавіў...**
**Успаміны ціхім болем**
**Абуджае той матыў.**

**Не мяняйце вы яго там,**
**Хай пабудзе шчэ са мной.**
**Зімні вечар. Ціш. Субота.**
**Вальс Шапэна за сцяной...**

РАБІ, ЯК Я



Зімовае купанне.

СПОРТ

**БІЯТЛОН.** Чэмпіянат Еўропы па біятлону ў Закапанэ прынёс беларускай камандзе сярэбраны медаль. Такі цудоўны вынік у эстафетнай гонцы паказала юніёрская жаночая каманда ў складзе Святланы Дзірко, Людмілы Ананька і Кацярыны Грыгор'евай.

**ЛЫЖНЫЯ ГОНКІ.** У Славакіі стартаваў юніёрскі чэмпіянат свету па лыжнаму спорту. У гонцы на дзесяць кіламетраў свабодным стылем беларускі лыжнік Раман Віралайнен паказаў дзевяты вынік, а Аляксандр Шалак — васемнаццаты.

**НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС.** У Сіднэі адбыўся фінал "Pro tour" сярод майстроў "малога" тэніса. На жаль, у першым жа туры наш Уладзімір Самсонаў уступіў трэцяй ракетцы свету Конк Ліньгу. Вялікія фізічныя і нервовыя нагрузкі, звязаныя з напружаным спартыўным календаром, не дазволілі першай ракетцы свету належным чынам падрыхтавацца да міжнародных спаборніцтваў. Гульні розняга рангу за каманду "Беларусь" вымагаюць шмат сіл і часу. І беларускі спартсмен усё часцей задумваецца пра тое, каб змяніць нямецкі клуб з Дзюсельдорфа на іншы, з менш насычаным календаром спаборніцтваў.

**ІНВАСПОРТ.** На днях адбылося пашыранае пасяджэнне выканкама Паралімпійскага камітэта. Генеральны сакратар Мікалай Заічкаў расказаў пра планы нацыянальнай зборнай. У Сіднэі беларуская каманда рэальна можа ўзяць 13—15 медалёў. На жаль, паралімпійскія медалі ацэньваюцца не так дорага, як алімпійскія. За першае месца паабяцана 7 500 долараў, за другое — 3 750, за трэцяе — 2 800.

**Каця МАЗАКОВА.**

МІЖНАРОДНЫ АГЛЯД

# ЕЎРОПА ЖАДАЕ БАЧЫЦЬ БЕЛАРУСЬ СВАБОДНАЙ І ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ

(Пачатак на 1-й стар.).

перад дэпутатамі агульнаеўрапейскага парламента і выказаць свой пункт погляду на становішча ў Беларусі. Слуханні па "беларускаму пытанню" адбыліся 26 студзеня і працягваліся амаль тры гадзіны.

Дыскусія на сесіі ПАСЕ паказала, што адзінства ў падыходах да сітуацыі ў нашай краіне ў еўрапейскіх парламентарыяў няма, нягледзячы на тое, што рэзалюцыя і рэкамендацыі беларускаму ўраду былі прыняты дэпутатамі аднагалосна. Погляды дэпутатаў з краін Заходняй Еўропы, Літвы, Эстоніі, Малдовы, Польшчы былі больш жорсткімі і радыкальнымі, у той час як прадстаўнікі Расіі і Украіны выступалі пераважна з пазітыўнымі і мяккімі ацэнкамі беларускіх падзей.

Гэта прызнаў і адзін з удзельнікаў дэлегацыі ад Нацыянальнага сходу Аляксандр Козыр. У Мінску на прэс-канферэнцыі ён паведаміў, што, менавіта дзякуючы намаганням дэпутатаў з Расіі і Украіны, удалося змякчыць многія палажэнні рэзалюцыі ПАСЕ па Беларусі. Але адначасова А. Козыр паведаміў, што і ў прадстаўнікоў заходніх краін мяняецца пазіцыя ў лепшы бок. "Зараз значна больш людзей, якія маюць на сітуацыю ў Беларусі трэці пункт погляду", — сказаў ён.

Слуханні па "беларускаму пытанню" ўяўлялі сабой выступленне дакладчыка і аўтара рэзалюцыі Вольфганга Беранта, які ў мінулым годзе знаходзіўся ў Беларусі з мэтай аналізу сітуацыі. Слова меў таксама прадстаўнік Камітэта па прававых пытаннях і правах чалавека ПАСЕ Гунар Янсан. З беларускага боку на сесіі выступалі намеснік старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Уладзімір Канаплёў і намеснік старшыні Вярхоўнага Савета 13 склікання Анатоль Лябедзька. Выступленні абодвух былі процілеглымі. У. Канаплёў звяртаў увагу на тое, што ў Беларусі адсутнічаюць канфлікты на рэлігійнай ці нацыянальнай глебах, людзі жывуць больш-менш прыстойна, а восенню гэтага года ў краіне павінны адбыцца выбары ў адпаведнасці з сусветнымі стандартамі. А. Лябедзька акцэнтаваў сваё выступленне на фактах парушэння правоў чалавека, на нежаданні ўладаў весці дыялог з апазіцыяй і на ігнараванні імі рэкамендацый еўрапейскай супольнасці.

Па выніках дыскусіі вызначыліся дзве асноўныя тэмы: выбары парламента восенню гэтага года і перспектывы палітычнага дыялога. Пазіцыя еўрапейскіх арганізацый на гэты конт добра вядомая. Выбары павінны адбыцца па закону, які б адпавядаў еўрапейскім нормам і дазваляў людзям як свабодна вылучацца, так і свабодна галасаваць.

Еўропа таксама настойвае на правядзенні ў Беларусі палітычнага дыялога. Гэтая мера бачыцца адзіным сродкам пераадолення рознагалоссяў, якія існуюць паміж уладнымі структурамі і апазіцыяй. Акрамя таго, еўрапейскія арганізацыі патрабуюць спынення праследу грамадзян па палітычных матывах, свабоднага доступу апазіцыі да дзяржаўных СМІ і ўвогуле стварэння ў Беларусі атмасферы даверу. Апазіцыя цалкам згодная з такімі патрабаваннямі. А вось прадстаўнікі ўладаў згаджаюцца з логікай такіх патрабаванняў з пэўнымі агаворкамі і маюць свой пункт погляду на метады іх дасягнення.

Вярнуўшыся са Страсбурга, У. Канаплёў заявіў, што беларускія ўлады, у тым ліку Нацыянальны сход краіны, згодныя на правядзенне палітычнага дыялога, але ў ім павінны браць удзел усе грамадска-палітычныя сілы краіны. "Дыялога ўладаў з вузкім колам апазіцыянераў не будзе", — заявіў на гэты конт У. Канаплёў.

Улады Беларусі не згодныя з некаторымі прапановамі еўрапейскіх арганізацый па змене выбарчага заканадаўства. У. Канаплёў лічыць, што выстаўленыя патрабаванні супярэчаць Канстытуцыі 1996 года, ад якой улады не збіраюцца адступаць. Увогуле, спасылаючыся на заключэнне Венецыянскай камісіі, прадстаўнікі Нацыянальнага сходу сцвярджаюць, што Выбарчы кодэкс, які днямі быў канчаткова прыняты, адпавядае міжнародным стандартам і дазваляе правесці справядлівыя выбары.

Некаторыя дэпутаты, вярнуўшыся са Страсбурга, сталі больш радыкальнымі ў ацэнцы дзейнасці еўрапейскіх арганізацый. У прыватнасці, член Камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Аляксандр Шпілеўскі паведаміў, што будзе ініцыіраваць правядзенне парламенцкіх слуханняў наконт "мэтаў дзейнасці і знаходжання ў Беларусі місій еўрапейскіх арганізацый". Паводле выказванняў дэпутатаў, такія місіі, у прыватнасці, гаварылася пра КНГ АБСЕ, пастаўляюць у свае арганізацыі інфармацыю, якая не адпавядае рэчаіснасці і на падставе якой складваецца няправільнае ўражанне аб падзеях у краіне.

Вынікам студзеньскіх сустрэч можна лічыць спадзяванне, што пасля выбараў парламента і станоўчай ацэнкі іх з боку еўрапейскіх структур у Беларусі з'явіцца рэальная магчымасць аднавіць статус спецыяльна запрошанага члена ў Савеце Еўропы — толькі першы крок да інтэграцыі ў еўрапейскую супольнасць. Гэта прызнаюць і сённяшнія кіраўнікі таго ж Нацыянальнага сходу. Глабальная задача — станаўленне Беларусі як незалежнай, свабоднай і дэмакратычнай дзяржавы.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

АГРАФІРМА «ЖДАНОВІЧЫ»





Агародніцтва — адзін з асноўных накірункаў аграгандлёвай фірмы "Ждановічы". Некалькі гадоў запар жыхары беларускай сталіцы ўжо ў лютым забяспечваюцца свежымі агуркамі і памідорамі, якія вырошчваюцца ў цяплічнай гаспадарцы аграфірмы па галандскай тэхналогіі. З аднаго квадратнага метра цяплічніцы збіраюць 45 кілаграмаў агуркоў і 37 кілаграмаў памідораў за сезон.

З кожным годам тут павялічваюць аб'ёмы вытворчасці, расце ўраджайнасць агародніны ўсіх відаў. Да 23 лютага на сталах мінчан з'явяцца свежыя агуркі, крышку пазней памідоры. А зараз работніцы цяпліц клапатліва даглядаюць расліны.

НА ЗДЫМКАХ: цяплічніца Марыя ГЕРАСІМЕНЯ; генеральны дырэктар аграгандлёвай фірмы "Ждановічы" Рыгор ЧУЙКО прызнаны "Чалавекам года" ў намінацыі "За ўкараненне перадавых тэхналогій і стараннасць гаспадарання на зямлі" сярод кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў і грамадскіх аб'яднанняў Беларусі.

**Аркадзь НІКАЛАЕЎ.**

МЕРКАВАННЕ

### АБ'ЁМ РЫБЫ, ШТО ВЫЛОЎЛІВАЕЦЦА Ў ПРЫРОДНЫХ ВАДАЁМАХ, МОЖА БЫЦЬ ПАВЯЛІЧАНЫ Ў 10 РАЗОЎ

Сумарны запас рыбы ў рэках і азёрах Беларусі складае каля 45 тысяч тон, што дазваляе без парушэння экалагічнай раўнавагі кожны год вылоўліваць да 10 тысяч тон. Пра гэта паведаміў старшыня Камітэта рыбааховы Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы акаляючага асяроддзя Мікалай Бамбіза.

У мінулым годзе, па яго словах, на прыродных вадаёмах было вылаўлена каля 800 тон рыбы. "Для Беларусі, дзе болей за 90 тысяч кіламетраў рэк і каля дзесяці тысяч азёраў, — гэта амаль нічога, і азёрную і рачную рыбу ў пералік дэфіцыту запісваць рана", — адзначыў М. Бамбіза.

Акрамя недастатковай матэрыяльна-тэхнічнай аснашчанасці сістэмы рыбааховы, пастаяннай праблемай з'яўляецца браканьерства і ігнараванне суб'ектамі гаспадарання прыродаахоўнага заканадаўства. М. Бамбіза паведаміў, што ў мінулым годзе Камітэтам выяўлена болей за 14 тысяч парушальнікаў правіл рыбалоўства, накладзена штрафаў болей чым на 16 мільярдаў рублей, канфіскавана звыш 13 тысяч забароненых прылад лоўлі.

КОРАТКА

### "САЛОДКІ" ХРУСТАЛЬ

Галоўны прыз на першым маскоўскім міжнародным фестывалі "Зоркі кулінарыі — трэцяму тысячагоддзю" заваявалі беларускія кандытары. Фурор у расійскай сталіцы выклікалі тварэнні майстроў з Брэста Марыі Макавецкай і Святланы Івашкінай, якім не знайшлося роўных сярод 178 удзельнікаў конкурсу. Ім быў уручаны хрустальны кубак. А выступленне каманды нашай краіны, у якую ўваходзіла яшчэ і сталічны майстар — повар Вера Гурыновіч, дазволіла Беларусі ўвайсці ў пяцёрку мацнейшых.

### СЯМ'Я ДЛЯ СІРОТ

У Ленінскім раёне Мінска ўведзена ў строй першая чарга дзіцячага дома сямейнага тыпу. Восем малышоў будуць жыць у шасціпакаёвай кватэры з кухняй, абсталяванымі спальнямі, тут жа пакой для маці-выхавальніцы, гасціная. Усяго ж у Мінску плануецца ўвесці ў дзеянне комплекс у тры чаргі. Першая і другая разлічаны на чатыры шматдзетныя сям'і. А трэцяя — інтэрнат для падлеткаў, якія скончылі школу і працягваюць вучобу.

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

# МАЛАКО — ДАЛІКАТЭС?

Апошнім часам зноў актуальнай стала праблема насычэння беларускага рынку малочнай прадукцыяй. Абмеркаванню гэтай тэмы была прысвечана і прэс-канферэнцыя з удзелам дырэктара ААТ "Лунінецкі малочны завод" Аляксандра ШАКАТУНІ.

Асартымент лунінецкага завода даволі багаты — цэльнамалочная прадукцыя, масла, сухое малако, ёгурты. Але пры магутнасці 300 тон малака ў суткі завод выпрацоўвае толькі 140 тон летам і 30 тон — зімой (10 гадоў назад гэтыя паказчыкі былі адпаведна 280 і 140 тон). Аналагічнае становішча і на іншых малочных заводах краіны. І калі фабрыкі марожанага і сыраварныя заводы знаходзяцца ў лепшых умовах, то цэльнамалочная прадукцыя абсалютна стратная. А каб завод стаў рэнтабельным, цэны на малако, па словах Аляксандра Юр'евіча, трэба падняць у 2—3 разы.

Галоўнай праблемай галіны названа рэзкае зніжэнне нарыхтовак малака. Для яе вырашэння завод вымушаны ўзяць на абслугоўванне жывёлагадоўчыя фермы. Зараз прадпрыемства па меры магчымасцей стараецца забяспечыць іх самым неабходным — ад удабрэнняў да халадзільнікаў і даільных апаратаў. Але якімі намаганнямі гэта робіцца — ведаюць толькі самі завадчане.

Але акрамя таго, што малочныя тавары задавальняюць патрабаванні рынку толькі на 80 працэнтаў, сярод іх часта трапляе і няякасная прадукцыя. Напрыклад, расійскае масла, зробленае толькі з расліннага тлушчу, малака і араматызатараў. Лунінецкі завод таксама выпускае масла з раслiннымі дабаўкамі, але іх суадносіны са сметанковым маслам — "пяцьдзесят на пяцьдзесят". А па смаку яно не адрозніваецца ад натуральнага "Крестьянского".

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ

# НЕПЕДАГАГІЧНАЯ

### НАСТАЎНІКАМ ШКОЛ ЧЭРЫКАЎСКАГА РАЁНА МАГІЛЁЎШЧЫНЫ ДАВОДЗІЦЦА ВЫРАШАЦЬ ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ ЗАДАЧЫ З МНОГІМІ НЕВЯДОМЫМІ

У "ЗОНЕ", як нараклі беларускія землі, забруджаныя чарнобыльскімі радыенуклідамі, усе беды і засмучэнні сацыяльна-эканамічнага жыцця адчуваюцца надзвычай востра. Быццам лязом па нервах успрымаецца бацькамі чэрыкаўскіх дзяцей інфармацыя аб тым, што з кожным адыходзячым паслячарнобыльскім годам праблемы, звязаныя з пагаршэннем здароўя іх малагадовых выхаванцаў, нарастаюць з хуткасцю снежнай лавіны. Крыху больш за дзесяць працэнтаў мясцовых дзяцей, па ацэнцы медыкаў Чэрыкаўскай райбальніцы, магчыма лічыць умоўна здаровымі, гэта значыць, яны не маюць яўных адзнак і праяў захворванняў. У астатняй большасці ў пяць-сем разоў адзначаецца рост паталогіі шчытападобнай залозы, захворванняў на анемію, ці, па-народнаму, малакроўе, гастрыт. А вось настаўнікі Чэрыкаўшчыны занепакоены, мякка кажучы, прагрэсіруючымі іншымі, раней не зусім характэрнымі для падрастаючага пакалення захворваннямі.

Пачатак кожнага вучэбнага года для педагогаў Чэрыкаўскага раёна азмрочаны вынікамі пасяджэння камісіі Магілёўскага абласнога дыягностыка-рэабілітацыйнага цэнтра.

Многія з школьнікаў-"нулёвікаў" і першакласнікаў пасля праходжання тут медыцынскіх абследаванняў атрымліваць несуцяшальны дыягназ, які засакрэчаны ад астатняга свету шматлічбавым кодам. Педагогам і бацькам тактычна тлумачыцца сэнс неафішыраваных лічбаў — алігафрэнія, алігафрэнія ў стане дэбільнасці, разумовая адсталасць, затрымка псіхічнага развіцця, моўныя дэфекты і гэтак далей.

У камп'ютэрны банк Чэрыкаўскага райаддзела адукацыі занесены ініцыялы 106 школьнікаў з рознымі ад-



## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

(Пачатак на 1-й стар.).

да беларусаў родную беларускую мовую па данецкаму абласному радыё станоўчых вынікаў не даў. Чаму ж такая абыякавасць? Няўжо мы тут сапраўды "абруселі"? Магчыма, бо ёсць такія, хто сваю родную мову ўжо забыў. Тыя гурты ці нацыянальныя культурныя грамады, якія сёння існуюць на Украіне, у некаторых рэгіёнах яшчэ слабыя, а іх мара аб'яднацца ва ўсеўкраінскае беларускае нацыянальнае таварыства да гэтага часу, як кажуць, вісіць у паветры. Магчыма, тут павінна быць дапамога з боку нашай маці-радзімы Беларусі. Мы ж твае сыны, дочкі, наша Бацькаўшчына!

Пачаўся новы год, а праблемы засталіся старымі. Але давайце будзем аптымістамі: мы стаім на парозе новага тысячагоддзя. Няхай у новым тысячагоддзі збудуцца нашы мары, каб мы, "пералётныя птушкі", не забывалі, хто мы ёсць, чыйго мы роду, адкуль ідуць нашы карані. Вялікае дзякуй калектыву рэдакцыі газеты "Голас Радзімы", якая сёння выконвае гэтую місію. Добра, што вы ёсць і газету атрымліваюць у 48 краінах свету. Будзем спадзявацца, што наступіць час, калі тыраж і аб'ём газеты стане большым.

Суайчыннікам і сваім землякам зычу ўсяго найлепшага: дабрабыту, шчасця, здароўя, творчых поспехаў.

З прывітаннем ваш беларус
Фёдар СЕВЯРЫН.
Украіна, г. Данецк.

**P. S.** У Брэсце Украіна адкрыла сваё консульства, там жыве 40,5 тысячы ўкраінцаў, а ў Данбасе, дзе найбольшая колькасць нашых землякоў, няма нават таварыства. Яшчэ адзін немалаважны штрых: штогод у нацыянальным універсітэце імя Шаўчэнкі ў Кіеве *атрымліваюць дыпломы* ўкраінцы, якія вывучаюць і беларускую мову.

## ВІНШУЕМ!

Споўнілася 60 гадоў Міхаілу Марынічу. Гэты чалавек зрабіў у сваім жыцці шмат. З яго імем звязаны стварэнне Мінскага метро, добраўпарадкаванне нашай сталіцы, калі М. Марыніч быў мэрам Мінска. Пад яго кіраўніцтвам развівала сваю дзейнасць знешнеэканамічнае ведамства краіны.

Таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім! У апошнія гады дзейнасць Міхаіла Афанасьевіча звязана з дыпламатычнай працай: ён Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол у Латвіі. Беларусы Латвіі лічаць, што ім вельмі пашанцавала: Міхаіл Афанасьевіч іх "заўсёды заўважае".

## ВЫСТАВЫ



БелТА.

# «ЗВАНЫ ПРАВАСЛАЎЯ»

Нацыянальным арганізацыйным камітэтам па падрыхтоўцы да сустрэчы трэцяга тысячагоддзя і святкавання 2000-годдзя хрысціянства сумесна з Міністэрствам культуры, Дзяржаўным камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей арганізавана ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі выстава "Званы Праваслаўя", на якой прадстаўлены карціны заслужанага дзеяча мастацтваў Леаніда Дударэнкі.

Выставу адкрыў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт. У вялізнай зале гучала духоўнае песнапенне. Было выказана шмат шчырых слоў і пажаданняў у адрас мастака.

З творчасцю Леаніда Дударэнкі знаёмыя не толькі ў Беларусі, ён удзельнік многіх міжнародных выстаў. Карціны мастака знаходзяцца ў калекцыях Расіі, ЗША, Германіі, Англіі, Ізраіля, Балгарыі і інш. Але гэтая выстава асаблівая і, па меркаванню многіх мастацтвазнаўцаў, "самая значная" ў яго творчасці. Да яе мастак ішоў усё сваё жыццё.

На выставе прадстаўлены майстэрскі выпісаныя пейзажы з архітэктурай праваслаўнага веравызнання. Такія палотны мог стварыць толькі глыбока веруючы чалавек."Не заўсёды мае карціны былі запатрабаваны, але я маляваў іх, бо ведаў, што Праваслаўе, царква — гэта духоўнасць, якая ратуе людзей", — сказаў на адкрыцці выставы мастак. І гэта не даніна модзе, бо яшчэ ў савецкі час, калі атэізм быў галоўнай ідэалогіяй, Леанід Дударэнка ў сваіх шматлікіх камандзіроўках і падарожжах па Беларусі і Расіі знаходзіў святыя для праваслаўнага чалавека мясціны і маляваў іх.

У самай вялікай зале размешчаны каля паўсотні карцін, на якіх з любоўю выпісаны праваслаўныя храмы. Нездарма Экзарх Філарэт зазначыў, што "гэтыя палотны разліваюцца перазвонам, і сёння, калі мы глядзім на карціны, мы адчуваем, як кожны штрых пэндзля мастака даходзіць да нашага сэрца".

"Дарога да храма" — так называецца адна з карцін мастака. На ёй намалявана цяжкая, ухабістая дарога, якая вядзе ўверх, да Храма. Ёсць надзея, што жанчына, якая па ёй ідзе з дзіцем, вядзе яго да веры! І гэта галоўная тэма цыкла "Званы Праваслаўя" — духоўнае адраджэнне чалавека напярэдадні трэцяга тысячагоддзя і 2000-годдзя хрысціянства.

**Таццяна КУВАРЫНА.**

НА ЗДЫМКУ: Леанід ДУДАРЭНКА знаёміць мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта з экспазіцыяй.

## МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ

**ЧЭХАЎ ГУЧАЎ ПА-БЕЛАРУСКУ.** 27 студзеня ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі прайшла вечарына, прысвечаная 140-годдзю з дня нараджэння вялікага рускага пісьменніка Антона Чэхава.

У сустрэчы прынялі ўдзел прадстаўнікі расійскага пасольства, беларускія пісьменнікі, навучэнцы Мінскага педагагічнага каледжа № 1. Вёў вечарыну заслужаны работнік культуры Беларусі, пісьменнік Анатоль Сульянаў, знаўца творчасці Чэхава. Ён пазнаёміў з цікавымі фактамі біяграфіі пісьменніка. Некалі Антон Чэхаў працаваў земскім урачом у родным горадзе Сульянава Звянігарадзе. Сябраваў з выдатнымі сучаснікамі: Сяровым, Левітанам, Урубелем, Талстым.

А. Сульянаў зазначыў папулярнасць Чэхава не толькі ў Расіі, Беларусі, але і ў многіх іншых краінах свету. Так, у 1999 годзе ў шасці тэатрах Берліна ставіліся п'есы пісьменніка.

У праграму вечарыны таксама было ўключана выступленне навучэнак Мінскага педкаледжа № 1. Наташа Драбеня, Вольга Усюшына і Аксана Жэка чыталі апавяданні А. Чэхава, перакладзеныя на беларускую мову К. Крапівой і Г. Шупенькам. Прысутныя былі ўражаны не толькі тым, як гучалі творы Чэхава на беларускай мове, але і тым, з якім натхненнем чыталі іх навучэнкі педкаледжа.

Саветнік расійскага пасольства Рудольф Лагавееў зазначыў, што яму ніколі не даводзілася чытаць творы Чэхава на беларускай мове і для яго было вялікай радасцю чуць чэхаўскія словы па-беларуску ў выкананні маладых людзей.

Аздабляла вечарыну пранікнёным выкананнем твораў Бетховена, Чайкоўскага, Рахманінава і Догі заслужаная артыстка Беларусі Ірына Шуміліна.

**Вячаслаў МАЛЕЙКА.**

## ЗАКОНУ АБ МОВАХ — 10 ГАДОЎ

# Алег ТРУСАЎ: «МЭТА ТБМ – АТРЫМАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ РЭАЛЬНАГА СТАТУСА ДЗЯРЖАЎНАЙ»

***Сёлета споўнілася дзесяць гадоў з часу прыняцця Закона аб мовах і мінула пяць ад рэферэндуму, які значна змяніў яго. Летась у краіне прайшоў перапіс насельніцтва. Ён паказаў, як мяняецца жыццё і погляды беларусаў, на мову ў тым ліку.***

***Прапануем паважаным чытачам інтэрв'ю са старшынёй Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Алегам Трусавым.***

**— Чаму ТБМ станоўча ацаніла вынікі перапісу насельніцтва?**

— Таварыства беларускай мовы разумела небяспечнасць перапісу. Цешыць, што беларускія грамадзяне аказаліся нават большымі патрыётамі, чым мы спадзяваліся. Ніхто не думаў, што колькасць людзей, якія адкажуць, што размаўляюць дома на беларускай мове, будзе такой вялікай — 3 мільёны 700 тысяч (37 працэнтаў насельніцтва Беларусі).

**— Аднак гэта ж толькі трэцяя частка насельніцтва...**

— Так. Але ў сённяшніх умовах існавання беларускай мовы — паказчык нядрэнны. Я думаю, што ў пытанні, якое абмяркоўваецца, лічбы заніжаны на 10—20 працэнтаў. І заўважце: 3 мільёны 700 тысяч — гэта колькасць насельніцтв цэлай краіны — Літвы. Ды і галоўнае: 82 працэнты грамадзян адказалі, што іх родная мова — беларуская.

**— Здаецца, такое пытанне мае гістарычны аспект?**

— Я б не сказаў. Адказ на такое пытанне — адлюстраванне самасвядомасці. Калі чалавек карыстаецца штодзень рускай, а называе роднай беларускую, я яго разумею так: "Я нарадзіўся з беларускай мовай, але за час жыцця ў гэтай краіне мяне адвучылі ад яе. Аднак я ўсё роўна хачу вучыць на ёй сваіх дзяцей". Усе памятаюць часы, калі адчынялася ўсё больш беларускіх школ, дзіцячых садоў. У грамадстве амаль не было супраціўлення паступоваму пераходу на беларускую мову. Я лічу, што Закон аб мовах, прыняты дзесяць гадоў таму, быў памяркоўны і нават мяккі. Рэферэндум 95-га ўнёс у яго значныя карэктывы. Але ТБМ разглядае вынікі перапісу (100 працэнтаў грамадзян) як ліквідацыю вынікаў рэферэндуму, у якім, як вядома, узялі ўдзел толькі 70 працэнтаў беларусаў. Маючы дзве лічбы — 82 і 37 працэнтаў, мы будзем патрабаваць, каб літаральна ў 2000 годзе 37 працэнтаў першакласнікаў вучылася ў беларускіх класах.

**— Якія яшчэ канкрэтныя захады збіраецца прымаць ТБМ у сувязі з вынікамі перапісу?**

— Дзякуючы Канстытуцыйнаму суду, дамагліся прыняцця распараджэння, па якому ўсе бланкі (паштовыя, мытныя і гэтак далей) павінны быць двухмоўныя. Пакуль невядомыя працэнтныя суадносіны, але мы будзем патрабаваць 37 працэнтаў бланкаў на беларускай мове. Мова бланка спрыяе мове запаўнення. Такім чынам, пашыраецца сфера ўжытку беларускай мовы. Сёння мы змагаемся за рэальнае двухмоўе.

**— Іншымі словамі, падчас дзесяцігоддзя Закона аб мовах ТБМ пачынае барацьбу за беларускую мову з самага пачатку?**

— Не. Назіраем і ацэньваем вынікі дзесяцігадовай барацьбы за беларускую мову. Перапіс паказаў, што мы ў рэшце рэшт выйгралі ўсе паказчыкі. Галоўнае — адзіны народ, колькасць якога павялічылася ад мінулага перапісу, — гэта беларусы. Многія прыехалі дадому з краін СНД, адсюль з'ехала шмат рускіх, яўрэяў. Такім чынам, мы ідзём да монанацыянальнай дзяржавы.

Закон аб мовах нездарма дзейнічаў дзесяць гадоў. Калі б у 1989 годзе спыталі ў людзей пра мову, якой яны карыстаюцца дома, колькасць тых, хто размаўляе на беларускай мове, была б невялікай. Дзесяць гадоў дзейнічання Закона аб мовах, улічваючы поспех першых пяці год і змаганне ў астатнія, былі станоўчымі. Іншая справа, што калі б не было рэферэндуму, нашы набыткі былі б у некалькі разоў большыя.

**— Здаецца, тактыка ТБМ відазмяняецца з цягам часу?**

— Мы змагаліся, каб беларуская мова была адзінай дзяржаўнай. Сёння наша мэта — атрыманне рэальнага статуса дзяржаўнай для беларускай мовы. Калі такое адбудзецца — яна будзе адзінай.

**— Адзін са сродкаў сцвярджэння беларускай мовы — ідэя ТБМ стварыць Беларускі нацыянальны універсітэт?**

— Беларускі нацыянальны універсітэт — не проста беларускамоўная вышэйшая навучальная ўстанова. Ён павінен рыхтаваць кадры беларускай нацыянальнай эліты ў сферы навукі і менеджменту. Патрабаванне выкладаць усе прадметы па-беларуску — толькі верхавіна айсберга.

Ужо створана ініцыятыўная група, у якой больш за сорак самых вядомых выкладчыкаў з усёй Беларусі, для распрацоўкі статута і канцэпцыі універсітэта. Калі ўсё будзе падрыхтавана, мы звернемся да кіраўніцтва дзяржавы і будзем спадзявацца на падтрымку.

**— Для стварэння універсітэта неабходна нейкая матэрыяльная база?**

— У якасці базы мы спадзяемся выкарыстаць інстытуты Нацыянальнай акадэміі навук. Духоўны падмурак — хрысціянскія каштоўнасці. Будзе аб'яўлены конкурс сярод выкладчыкаў. Ужо сёння ёсць шмат прапаноў ад кандыдатаў навук, дацэнтаў.

**— Даволі дзіўная сітуацыя: грамадскае аб'яднанне займаецца стварэннем Нацыянальнага універсітэта...**

— Гэта адказ на запатрабаванні грамадскасці. Ідэя сфармуліравана ТБМ не ўчора, а чатыры-пяць гадоў таму. Спачатку мы хацелі, каб нацыянальнай установай стаў БДУ. Потым зразумелі, што нельга такое рабіць адміністратыўнымі метадамі. Палова выкладчыкаў БДУ ніколі па-беларуску чытаць лекцыі не будуць. Прымушаць не трэба. Цяпер наша мэта — стварыць адзін беларускамоўны універсітэт, а ў астатніх — беларускамоўныя плыні.

**P. S.** ТБМ падтрымлівае сувязі з нашымі шаноўнымі чытачамі ў замежжы. Мінская рада ТБМ яшчэ раз выказвае падзяку праз газету "Голас Радзімы" сужонству Кіпеляў за дасланыя калядныя падарункі беларускім дзецям. Іх атрымалі вучні 37-й мінскай і Сенніцкай школ. Дзецям з Мінска прыйшлося змагацца за беларускамоўнае навучанне. У Сенніцкай школе вывучаюць беларускі фальклор, ёсць мастацкі калектыў. Дзеці цягнуцца да беларушчыны.

**Алена СПАСЮК.**

# ПАЭМА

хіленнямі ў псіхафізіялагічным развіцці. Штогадовы прырост колькасці школьнікаў, пэўныя дыягназы якіх пацвярджаюцца, зараз дасягае ў раёне прыкладна дзесяці чалавек. Між тым, чэрыкаўскія педагогі ў дакладнасці гэтай лічбы сумняваюцца, бо існуе і "ценевая" статыстыка адзначаных відаў захворванняў: многія бацькі саромеюцца афішыраваць факты разумовай адсталасці дзяцей.

Па даных Міністэрства адукацыі Беларусі, зараз на Магілёўшчыне пражывае каля пяці тысяч дзяцей з прыроджаным парушэннем інтэлекту, а таксама амаль тры тысячы дзяцей, якія пакутуюць ад парушэнняў органаў мовы.

Што ў такой сітуацыі робяць мясцовыя педагогі, каб абяздоленыя дзеці не апынуліся ў недалёкай будучыні ўбаку ад грамадскага жыцця?

Кіраўніцтва раённага аддзела адукацыі некалькі гадоў таму назад вырашыла пайсці на эксперымент, які, дарэчы, быў падтрыманы адпаведным рашэннем Чэрыкаўскага райвыканкама. Вось як яго ацэньвае метадыст і псіхолаг раённага аддзела адукацыі Таццяна Падабед:

— Тое, што растуць такога роду захворванні, мы, педагогі, бачым не на прыкладзе медыцынскай статыстыкі, а зыходзячы з практычнай паўсядзённай работы. Кожны выпуск пачатковых класаў Чэрыкаўшчыны па разумовых здольнасцях год ад году становіцца ўсё больш слабым. Хаця навуковых, медыцынскіх абгрунтаванняў наконт таго, што звязана гэта з уздзеяннем аварыі на ЧАЭС ці сацыяльнымі фактарамі, нам ніхто не прадставіў. Таму на базе сярэдняй школы № 2 Чэрыкава было вырашана стварыць так званы інтэграваны клас. У ім дзеці з затрымкамі ў псіхічным развіцці і дэфектамі мовы маюць магчымасць авалодваць ведамі разам з астатнімі аднагодкамі. Аднак на занятках па матэматыцы і гуманітарных прадметах месца традыцыйнага настаўніка ў чацвярых "эксперыментальных" школьнікаў займае пакуль што адзіны ў раёне настаўнік з дэфіцытнай спецыялізацыяй дэфектолага. Папярэднія вынікі эксперымента даюць падставы сцвярджаць, што навучанне па спецыяльнай праграме дазваляе хворым дзецям пазбавіцца псіха-фізіялагічных комплексаў.

Ва ўсёй сістэме адукацыі раёна настаўнік-дэфектолаг Аксана Фацеева (на здымку) на вагу золата. Выпускнікі педагагічных ВНУ ў "аварыйных" раёнах Магілёўшчыны надоўга не затрымліваюцца, а перападрыхтаваць у Мінску кагосьці з мясцовых настаўнікаў па шэрагу прычын — сямейных, матэрыяльных — не вельмі проста. Да таго ж цалкам не вырашаны пытанні забеспячэння адзначанай вышэй катэгорыі вучняў спецпадручнікамі, налічэння зарплаты для двух настаўнікаў, якія працуюць у адным класе.



Фота Мікалая ЦІТОВА.

"Эпідэмія" псіха-фізіялагічных парушэнняў у дзяцей ставіць чэрыкаўскіх педагогаў перад неабходнасцю адкрыцця інтэграваных класаў ледзь не ў кожнай са школ раёна. Аднак на сённяшні дзень адзначаны праект хутчэй за ўсё з разраду нездзяйсняльных. Падрыхтоўка неабходных кадраў і матэрыяльнае забеспячэнне адукацыйнай сферы відавочна адстаюць ад прагрэсіруючых захворванняў.

Зрэшты, мясцовыя настаўнікі — людзі, даўно пазбаўленыя вясёлкавых ілюзій адносна хуткага вырашэння "непедагагічных" выдаткаў у педагагічным працэсе. Адчулі яны гэтыя выдаткі і на ўласнай кішэні. Ім жа і снежаньскую зарплату абяцалі выплаціць да навагодніх святаў, а справы зрушыліся з мёртвай кропкі толькі перад самымі калякднымі маразамі.

**Юрый БЯСТВІЦКІ.**
Магілёўская вобласць.



ледзь не да
аве гэта плён
сноў і, асме-
назіранняў за
радыцыямі. У
оць дачынен-
ны. Што гэта
ак, сведчаць
Пастарнацка-
зваляюць га-
лізкасць да

едачнае вы-
цыянальнасці,
крыніцай для
ы, затое яна
хаця і сціс-
грамадскі і

ляў на першы план практычны бок выкладання і лічыў, што студэнты мусяць мець большую самастойнасць на клінічнай стажыроўцы. Нездарма з яго рук выйшла цэлая плеяда выдатных урачоў-практыкаў і навукоўцаў. Гэта супрацоўнікі яго кафедры Т. Юцкевіч, А. Ільін, М. Варанцоў, С. Худзінскі.

* * *

Ужо ў росквіце сваёй прафесійнай дзейнасці Фёдар Ігнатавіч звяртаецца да такой медычнай галіны, як кліматабальнеатэрапія, адным з заснавальнікаў якой у краіне ён быў. Акрамя вядомай клінічнай манаграфіі пра дыягностыку захворвання нырак "Пізліт", выдадзенай пасля ягонай смерці, ён напісаў

Смею меркаваць, што грамадскай і практычна-ўрачэбнай дзейнасцю ён імкнуўся задаволіць патрэбу ў збліжэнні з простымі людзьмі, аказанні ім непасрэднай, канкрэтнай дапамогі. Пэўны доказ гэтаму атрымаў я ў адной з журналісцкіх паездак па Мінскім раёне, завітаўшы ў вёску Пяцеўшчына. Было гэта даўнавата, гадоў гэтак трыццаць таму. Тады мясцовы 80-гадовы заслужаны ўрач рэспублікі Іосіф Хмялеўскі і расказаў мне пра "пецярбургскага прафесара", ураджэнца Пяцеўшчыны. Аказваецца, Пастарнацкі прыязджаў сюды на летні адпачынак штогод. Ля ягонай "дачы" збіраліся натоўпы вяскоўцаў. Усе чакалі прыёму ў прафесара: хто лячыцца, а хто

# СТ ПАСТАРНАЦКАГА

обы. Трады-
медычнай эн-
енш, досыць
ць значнасць
навукоўца і
ніцыста.
аў, з 1871 го-
ік Кіеўскага
іць пра сябе,
званнем "ле-
ўшыся ва уні-
тэрапеўтыч-
оў на працягу
раезд у Пе-
стыкі і агуль-
аў прафесар

ю расійскую
выпадку, зу-
жыхарства
бліжэй паз-
і ідэямі ме-
ш з тэорыяй
ча і н...коў-
пас... ўні-
ацкі. Менаві-
тым яго ад-
ры медыцы-
рыемных па-
кай дысерта-
іцця, званне
раз тры гады
ам кафедры
есарам шпі-
клінікі Ваен-
пасады, якія
маў да канца

еры таксама
осіны да яго
яліста і арга-
олькі вонка-
най багатай
онага разу-
што завецца
ай навукі і
пакаленнях
федры шпі-
эпохай у на-
каў. Лекцыі
збіралі поў-
сар выстаў-



шэраг манаграфічных прац пра групу паўднёвых курортаў: "Кісла-водск і яго гаючыя сродкі", "Кліматалячэбныя пункты на Чарнаморскім узбярэжжы" і іншыя. Апісваючы ў сваіх працах санітарна-гігіенічны стан, клімат, прыродныя ўмовы Каўказа, Ф. Пастарнацкі адначасова даваў інфармацыю пра вынікі даследаванняў фізіялагічнага дзеяння нарзана, развіваў ідэю прымянення ў лячэбных мэтах сціснутага і разрэджанага паветра, газаванага малака. Ужо тады, у 1894 годзе, ён прадказваў чарнаморскім курортам, сярод якіх вылучаў па клімаце раён Гагры, "бліскучую будучыню".

Самыя апошнія навуковыя работы выдатнага медыка прысвечаны назіранням за кліматычнымі і сангігіенічнымі асаблівасцямі Палесся як курортнай мясцовасці.

Яго хапала на ўсё: і на грамадскую дзейнасць у "Рускім таварыстве аховы народнага здароўя", і на навукова-арганізацыйную, плёнам якой былі, скажам, Усерасійская гігіенічная выстава і з'езд "дзеячаў па кліматалогіі, гідрабіялогіі і бальнеалогіі", і г. д.

проста параіцца, і не толькі наконт хвароб.

Не аднаго хворага паставіў ён на ногі. За лета выдаткоўваў увесь багаты запас медыкаментаў, якія за свае грошы купляў у Пецярбургу. Вольга Грыва, Аляксандр Лішай, якіх лячыў Фёдар Ігнатавіч, з удзячнасцю згадвалі "добрага дохтура", які неаднойчы аб'язджаў у вазку навакольныя вёскі, заходзіў у цесныя сялянскія хаціны, радуючы землякоў сваім візітам, часта нечаканым.

Іосіф Хмялеўскі (хай зямля яму будзе пухам) паказваў мне лес, які ён, ягоныя аднавяскоўцы ды іншыя тутэйшыя звалі лесам Пастарнацкага.

Фёдара Пастарнацкага не стала ў 1902 годзе. Яго пахавалі ў Пяцеўшчыне. Не ведаю, калі — пры ягоным жыцці або пасля, — і з'явілася тая легенда пра мост, — што мінчукі ў адрозненне ад Заходняга (Жалезнага), па якім праходзіць чыгунка і які з заходняга боку абмяжоўвае цяперашнюю плошчу Мяснікова, празвалі Каменным. Ён сапраўды з каменя, пралёг над чыгункай і аж да апошняй кардынальнай рэканструкцыі быў значна ніжэйшым. Затое праезду ў Мінск ужо нішто не замінала.

Землякі Фёдара Ігнатавіча якраз і знітоўваюць з'яўленне віадука з імем Пастарнацкага. Яны не думаюць, што "добры доктар" фінансаваў будаўніцтва са сваёй кішэні, хіба толькі часткова, што таксама сумніўна. Больш верагодна, што ён яго ініцыіраваў, хадайнічаў перад адміністрацыйнымі ўладамі горада і губерні і такім чынам палегчыў жыццё мноства людзей.

Легенда ёсць легенда. Але ўжо адно яе існаванне сведчыць пра людскую павагу і любоў да выдатнага медыка і грамадскага дзеяча, які заслужыў доўгую, добрую памяць пра сябе сваім праведным жыццём.

**Раальд ЛЕВІН.**

г. Па за-
лы, былога
тара Інсты-
льтуры, ад
рыслаў па
ўловіча, я
ераехаў з
інск. Да
абяцанай

## УСІ,
## І...»

еларускай
я пражы-
вышэйпа-
. Пасля я
ым флігелі
еларускай
назначана
елкульце я
йным чле-
ічэ ў час
ня ў Ле-
штатнай
беларус-
е займаў,
на лінгвіс-
х, атрым-
ую плату
іконваючы
а перакла-

ду і карэктуры замежных тэкстаў.

Калі была заснавана камісія па складанню поўнага (акадэмічнага) слоўніка беларускай мовы, я стаў працаваць у ёй, ведучы папярэднюю рэдакцыю дасылаемых з месцаў картаксоў, робячы пра іх водгук, на падставе якога назначалася прэмія збіральнікам дасылаемых слоўнікавых матэрыялаў наколькі яны здавальняюча былі зроблены, адкідваючы дрэнныя, што не падлягаюць аплаце.

Калі пастаноўлена было выдаваць папярэдне, як дапаможны матэрыял, абласныя слоўнікі, я, сумесна з вучоным сакратаром Байковым працаваў над гэтымі слоўнікамі, якіх выйшла да гэтага часу два: Віцебскі краёвы слоўнік — Каспяровіча і Чэрвенскі слоўнік Шатэрніка пад Байкова і маёй рэдакцыяй, а таксама пачаў друкавацца трэці — Мазырскі слоўнік А. Крукоўскага, якога аддрукавана да гэтага часу два аркушы пад адной маёй рэдакцыяй.

Гады два таму Прэзідыум Акадэміі прызначыў мяне дырэктарам Слоўнікавай Камісіі, на якой пасадзе (паўштатнай) я і значуся да гэтага часу.

У 1926 г. склікана была Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Я на пасяджэннях гэтай канферэнцыі прысутнічаў, але актыўнага ўдзелу не прымаў у выглядзе выступлення з дакладамі ці пярэчаннямі.

За час усяго пяцігадовага знаходжання ў Мінску я рэдка дзе бываў. У першыя гады некалькі разоў у Некрашэвіча на абедзе, затым бываў у Я. Купалы, якога я ўтрымліваў тры гады ў Петраградзе, калі ён жыў там у мяне, наведваючы агульнаадукацыйныя курсы для дарослых А. Чарняева. Бываў зрэдку ў Паўловіча, адзін раз у паэта Гурло, больш не помню.

Пра арганізацыю пад назвай "Саюз вызвалення Беларусі" я не ведаў і не падазраваў пра яе існаванне. Нацыянал-дэмакратычных праяў з боку маіх знаёмых асоб, акрамя тых, якіх папракалі ў гэтым у друку, як Жылуновіча, я не заўважаў. Сам не праяўляючы нідзе такіх дзеянняў, я асуджаю нацдэмакратызм як вельмі шкодную з'яву ў даны момант.

*Мінск. Бр. Эпімах-Шыпіла.*

**P. S. Захаваны правапіс арыгінала.**

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ



**"Вашы работы падарылі мне дзіўнае пачуццё, якое бывае толькі пасля малітвы, размовы з Госпадам. Нешта са мной сталася: я ўжо не тая, што была раней. Пакідаю выставу са слязамі на вачах, з душою чыстай і ўзнесенай..." Такіх цёплых і сардэчных слоў, прысвечаных Тамары Шаўцовай, у кнізе водгукаў вельмі шмат. Іх пісалі людзі розных узростаў, нацыянальнасцей, інтарэсаў — тыя, каму пашчасціла пазнаёміцца з унікальнымі работамі мастачкі.**

# МАЛІТВА ТАМАРЫ ШАЎЦОВАЙ

Тамара Шаўцова валодае рэдкім дарам: яна піша карціны, але не пэндзлем і фарбамі, а рознакаляровымі шаўковымі ніткамі, дабаўляючы ў іх палітру люрэкс і штучны жэмчуг. Работы мастачкі ўражваюць вытанчанасцю і нейкай незямной прыгажосцю. Асобыя пачуцці выклікаюць вышываныя іконы: ніякія словы не змогуць перадаць тую цеплыню і станоўчую энергетыку, што ідуць ад натхнёных лікаў Збавіцеля, Маці Божай, святых...

І рэлігійнасць, і захапленне вышываннем увайшлі ў жыццё нашай гераіні з дзяцінства. Тамара Іванаўна больш за 40 гадоў жыве ў Мінску, але і зараз з удзячнасцю ўспамінае падмаскоўнае сяло Спас, дзе нарадзілася і дзе так хораша гучаў царкоўны звон. Спасаўская царква была адзінай у радыусе 25 кіламетраў, і, акрамя богаслужэнняў, тут часта адбываліся вянчанні, адпяванні, хрышчэнні. І, натуральна, дзеці з маленства прымалі ўдзел ва ўсіх гэтых дзействах, часта хадзілі ў царкву. Ужо тады маленькая Тамара заўважыла, што абразы — гэта не застылыя выявы: лікі святых перадаюць самыя розныя адценні душэўнага стану. Яны робяцца маркотнымі і засмучанымі, а калі на сэрцы весела і хораша, калі жывеш у гармоніі з сабой і ўсім навакольным светам, падтрымкай і ўзнагародай табе будзе ласкавы і ўдзячны позірк з іконы.

Сярод семярых братоў і сясцёр Тамара Іванаўна вылучалася сваім незвычайна лагодным характарам: ціхая, сарамлівая, заўсёды стрыманая і спагадлівая, яна і занятак сабе абрала адпаведны — з дзяцінства шмат вышывала. Пазней гэтае захапленне стала яе прафесіяй — Тамара Шаўцова працавала ў адным са сталічных атэлье. Аднак за доўгія гады работы вышыванне не толькі не ператварылася для яе ў руцінны, будзённы абавязак, а наадварот, дало выйсце вялікаму творчаму патэнцыялу рукадзельніцы. Зараз талент Тамары Шаўцовай прызнаны ва ўсім свеце: яе імя ўнесена ў спецыяльны камп'ютэрны каталог, які змяшчае даныя пра лепшых майстроў усіх краін свету; іконы Тамары Іванаўны знаходзяцца ў Японіі, Амерыцы, нават Ватыкане. Але выставы праводзіліся лічаныя разы. Аднак для мастачкі гэта не галоўнае: яна ніколі не была самалюбівай, зараз таксама не прагне славы і ўшанаванняў. Першапачаткова пра тое, што яна вышывае іконы, не ведалі нават дзеці, — адзін муж. І толькі праз пэўны час Тамара Шаўцова адважылася прадставіць свае работы гледачам, перажываючы, як яны будуць успрыняты. Аднак усе хваляванні аказаліся дарэмнымі: і першую, і наступныя выставы гледачы сустрэлі так цёпла і ўдзячна, што пра гэта можа марыць любы творца. Людзі падоўгу стаялі перад іконамі, думалі, маліліся, нават плакалі — і пакідалі выставу з прасветленымі тварамі, ачысціўшыся душой. Аднойчы Тамары Іванаўне перадалі пісьмо ад дырэктара Сусветнага банка і грошы, якія ён дарыў мастачцы за яе богаўгодную справу. Напярэдадні яго жонка выпадкова




трапіла на гэтую выставу і да глыбіні душы, да слёз была кранута іконамі, вышытымі Тамарай Шаўцовай. Грошы аказаліся вельмі "да месца": імі аплацілі арэнду выставачнай плошчы, а на астатнія змаглі купіць шоўк, якім мастачка вышывае свае карціны і які так дорага каштуе.

Іконы Тамары Шаўцовай былі высока адзначаны выкладчыкамі Барысаўскай школы іканапісу, якія заўважылі не толькі выключны ўзровень іх мастацкага выканання, але і адпаведнасць царкоўным канонам. І гэта вельмі важна, таму што ў іканапісе кожная дэталь і нават колер нясуць сваю сімволіку: напрыклад, блакітны — колер Бога, зялёны — жыцця. Мастацтва Тамары Шаўцовай не пакінулі без увагі і прадстаўнікі духавенства: яе іконы асвячоны царквой — і праваслаўнай, і каталіцкай.

На сённяшні час рукадзельніцай створаны 32 іконы — "Святая Дзева Марыя", "Плашчаніца з Лікам Хрыста", "Павучанне Хрыста"... "Падчас вышывання іконы я не заўважаю нічога навокал, магу працаваць па пяць, дзесяць, пятнаццаць гадзін, — гаворыць мастачка. — У гэты момант наступае нейкае ўнутранае ачышчэнне, хочацца дараваць людзям усё дрэннае і не заўважаць таго, што раніць..."

Зараз у Тамары Шаўцовай усё менш часу для любімай справы: яна жыве з братам-інвалідам і 98-гадовай матуляй, і ўсе сілы, цеплыню, кожную свабодную хвілінку імкнецца аддаць ім.

Але хочацца спадзявацца, што некалі адбудзецца новая выстава яе твораў і іконы Тамары Шаўцовай зноў змогуць убачыць сотні ўдзячных гледачоў.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
**Фота Сяргея ШЫРАЕВА.**

ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ

# ЗАВАРОЖАНЫ ЧАРОЎНЫМІ ГУКАМІ

Імя Уладзіміра Грома — заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь, нязменнага мастацкага кіраўніка фальклорнага ансамбля "Крупіцкія музыкі", вядомае не толькі ў Беларусі. Ансамбль пабываў у розных кутках свету: Расіі, Польшчы, Галандыі, Італіі, Германіі, Францыі, Японіі. І ўсюды поспех, прызнанне і запрашэнне прыехаць зноў. Уладзімір Мікалаевіч не толькі таленавіты кіраўнік, але і творца. Усю сваю энергію і чысціню душы ён прысвяціў таму, каб вяртаць сучаснікам забытае, напаўняць яго новым жыццём. Нядаўна ў Крупіцы з вялікім поспехам прайшла прэзентацыя яго рэпертуарнага зборніка для аматараў ігры на дудцы "Дударэньку-гаспадэньку". Дудка — гэта нацыянальны музычны інструмент. Калі слухаеш яе напевы, то здаецца, што пераносішся ў той далёкі час, калі не было яшчэ ні скрыпак, ні гусляў, і толькі пад чароўныя гукі дудкі нашы продкі праводзілі свае ігрышчы, з якіх "умыкалі" сабе жонак. У духоўным жыцці беларусаў дудка выконвала важную і разнастайную ролю. Ні адно вяселле не праходзіла без яе. З гэтым музычным інструментам звязаны многія легенды і паданні. Існуе шмат прыказак і прымавак, звязаных з дудкай.

Напрыканцы XIX стагоддзя, калі з'явіўся гармонік — інструмент з большымі выканальніцкімі магчымасцямі, пра дудку паступова забыліся, здавалася, назаўсёды. Але апошнім часам усё больш і больш, асабліва ў моладзі, праяўляецца цікавасць да дудкі. Яе зараз можна пачуць амаль у кожным беларускім ансамблі. І настаў такі момант, калі ўзнікла вострая неабходнасць у своеасаблівым дапаможніку для аматараў цудоўнага старадаўняга інструмента, якія імкнуцца данесці да нашчадкаў водгукі мінулых стагоддзяў. Так убачыў свет зборнік "Дударэньку-гаспадэньку", складзены сапраўдным беларускім дударом Уладзімірам Громам. Зборнік выйшаў тыражом усяго 100 экземпляраў. Аднак ёсць спадзяванне, што знойдуцца спонсары — нашы суайчыннікі, якія змогуць паклапаціцца, каб тыраж такой унікальнай кнігі намнога вырас.

**Віктар ЯГОРЧАНКА.**

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

*Юры Попка. Імя гэтае мы спазналі толькі ў пачатку 90-х гадоў, калі, наладжваючы сувязі новай, незалежнай Беларусі з Германіяй, грамадскасць дазналася, што ёсць там сапраўды незвычайная з'ява — куточак Беларусі. Але тады ж — у 90-м годзе — памёр эмігрант з Беларусі, які заснаваў музей на сваёй новай радзіме — Германіі.*

Што мы ведаем пра яго? Амаль нічога. З дакументаў, якія засталіся, вынікае, што нарадзіўся Юры Попка ў вёсцы Высокі Груд на Беласточчыне 7 кастрычніка 1912 года. На фота часоў вайны ён выглядае як статны беларускі селянін. Ягоная жонка Марыя, уроджаная Ганчарка, нарадзілася ў Пружанах 29 чэрвеня 1925 года. Прыгожая, хаця твар на здымку даволі змучаны. Пазней ён называе сябе ў дакументах Георгам, мабыць, каб гучала больш па-заходняму, і гэтае імя стаіць на дакуменце 1949 года, які сведчыць, што Попка здаў экзамен на пажарніка. Ён і працаваў у тэхнічнай галіне да самай смерці. Але соў сярэднявечча ўспрымалі Еўропу як агульны дом.

Славуты вучоны Барыс Кіт, які пазнаёміўся з Попкам недзе ў сямідзесятых гадах, калі прыехаў у Франкфурт-на-Майне са Злучаных Штатаў і застаўся тут ажно па сёння, расказваў, што напачатку дапамагаў свайму земляку з чыста сяброўскіх пачуццяў. Попка нястомна шукаў па ўсёй Нямеччыне тых, у каго заставаліся нейкія рэчы, вывезеныя з радзімы: уборы, паясы, наміткі, лапці. Тыя, да каго ён пісаў, часта адказвалі яму трохі пацвельваючыся — маўляў, знайшоўся этнограф! Але з цягам часу яго трохпакаёвая кватэра запоўнілася рэчамі. Галоўным, самым

# СКАРБАШУКАЛЬНІК З ЛЯЙМЭНА

меў літаратурныя здольнасці, і яны выявіліся ў апошнія дзесяцігоддзі ягонага жыцця, калі просты інжынер узяўся — смеху варта! — ні больш ні менш як за стварэнне Музея беларускай культуры, а пазней — ажно Інстытута беларусаведы. Узяўся рабіць гэта на свае пенсійныя грошы, адкладваючы іх і ашчаджаючы так, як можа рабіць гэта, пэўна, толькі беларус.

Апошнія тыя дзесяцігоддзі ён атабарыўся ў Санкт-Ільгене, які цяпер зліўся з суседнім Ляймэнам і складае адно — невялікі гарадок, якому, аднак, споўнілася ўжо 1200 гадоў і які мае амаль такую ж слаўную гісторыю, што і суседні Гайдэльберг. Толькі, на жаль, тут няма такога старажытнага універсітэта. І ўсё ж, здаецца, выбар быў зроблены не выпадкова: і недалёкі Франкфурт-на-Майне, і сам Гейдэльберг звязаныя са старажытнай гісторыяй Беларусі. У Франкфурце-на-Майне яшчэ ў 1676 годзе выйшла, напрыклад, кніга нашага геніяльнага Казіміра Семяновіча "Вялікае мастацтва артылерыі". А універсітэт, заснаваны ў 1386 годзе (трэці ў Еўропе пасля Прагі і Вены), не раз прымаў нашых землякоў, якія яшчэ з ча-

дарагім былі кнігі. Тое, што выдавалася на эміграцыі ў канцы саракавых, тое, што павезлі з сабой за акіян эмігранты. Тое, што ён хацеў захаваць тут, у Нямеччыне, бліжэй да радзімы.

Сабраную ў Ляймэне калекцыю смела можна назваць музеем беларускай літаратуры. Унікальныя кнігі знаходзяцца на стэндах як сведчанне таго, што беларусы, апынуўшыся на чужыне, выкарыстоўвалі ўсе магчымасці, якія адкрываліся перад імі: друкавалі кнігі, газеты, стваралі літаратурныя альманахі. Яны не забываліся на радзіму. Сярод кніг шмат класікі: Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі... Я знайшла нават "Дабрасельцаў" Аляксея Кулакоўскага, не кажучы ўжо пра "Творы" Власта (Вацлава Ластоўскага) ці "Западноруссизм" Аляксея Цвікевіча. Кнігі, па-сапраўднаму бясцэнныя для гісторыі беларускай літаратуры і філасофіі, для грамадскай думкі, можна пералічваць доўга — гэта "Зборнік песняў беларускага жаўнера", "Гісторыя Беларусі" на нямецкай і англійскай мовах, "Беларуская музыка" Міколы Куліковіча, "Смерць і салаўі" П. Сыча і многія, многія іншыя. Ёсць зборнікі вершаў Хведара Ільяшэвіча, у тым ліку яго "Захварбаваныя вершы", а таксама пасмяротнае выданне "Апавяданняў", дзе побач з прозвішчам стаіць і псеўданім "Сьвятаслаў Залужны". А яшчэ выпускі "Беларусаведы" — інстытута, як называў яго Попка, дзе друкаваліся многія дзеячы эміграцыі, паэты, празаікі і публіцысты.

Усё гэта беларусамі не даследавана, яшчэ няма нават каталога. Па-сапраўднаму музеем апякуюцца а цяпер толькі ляймэнцы. Калі музей беларускай культуры ўрачыста адкрываўся, менавіта гарадскі магістрат на чале з обер-бургамістрам Гербертам Эрбарам прыняў у ім самы чынны ўдзел. Усё гэта было як след



*Частка экспазіцыі музея, створанага Ю. ПОПКАМ.*




*Ляймэнцы ўзялі на сябе клопат пра магілу беларуса.*

занатавана, мы можам і цяпер прачытаць прамовы, якія тады гаварыліся, а таксама пабачыць, чым было тое афіцыйнае прызнанне ўладаў для нашага земляка. Па сутнасці, тады адкрываўся адзіны ў Нямеччыне музей беларускай культуры — ён такім застаецца і па сёння, пасля смерці ягонага заснавальніка.

Горад з цягам часу ўзяў на сябе не толькі клопат пра музей, але і клопат пра магілу Юрыя Попкі.

...Першы раз я пабачыла экспанаты, сабраныя Юрыем Попкам, у снежні 1993 года, калі мяне запрасілі ў паездку ў Ляймэн Барыс Кіт і Пётр Садоўскі, былы пасол Беларусі ў Нямеччыне. Тады былі абгавораны прынцыпы сумеснага супрацоўніцтва беларускіх грамадскіх арганізацый (напрыклад, "Бацькаўшчыны") і ляймэнцаў. Кіт асабліва клапаціўся пра магчымае пабрацімства Наваградка і Ляймэна. Збіраліся нават выдаваць "Ляймэнскі сшытак", дзе змяшчаліся б матэрыялы пра Беларусь, яе культуру і гісторыю.

З задуманага засталося толькі супрацоўніцтва Ляймэна з Наваградкам — вось ужо чацвёрты раз прыязджаюць ляймэнцы ў гэты горад (дарэчы, яшчэ і ў Магілёў) і прывозяць лекі, медыцынскае абсталяванне, санітарныя машыны "хуткай дапамогі" і іншыя карысныя рэчы. Ініцыятыва ідзе з іхняга боку, аднак яна, магчыма, і не з'явілася б, калі б у свой час не было Попкі — аднаго з грамадзян Ляймэна, чый музей "працаваў" — як працуе і цяпер — на лепшае разуменне праблем беларускага адраджэння, на наша ўзаемаразуменне.

Сёлета мне ўдалося — у рамках праграмы Гётэ-інстытута — пабываць у Ляймэне яшчэ раз. Ёсць змены: экспанаты пераведзены з кватэры ў агульны музей у Санкт-Ільгене (гарадок гэты цяпер зусім зліўся з Ляймэнам і стаў яго часткай). Туды пастаянна прыходзяць людзі, так што жыццё і спадчына Юрыя Попкі цяпер шырока вядомыя. Экспанаты — рэчы, кнігі, беларускія ўборы — размешчаны на стэндах прасторна і з густам.

Хочацца, каб гэтая унікальная з'ява — беларускі куток у самым цэнтры Германіі — стала не толькі клопатам Ляймэна. Кожны з нас мае права на свае адносіны да зямлі, дзе мы нарадзіліся і выраслі. Каб толькі былі яны не нянавісцю, не пагардай, а сапраўды — любоўю. Беларусі патрэбная наша любоў, наша служэнне ёй, нашы агульныя высілкі дзеля яе будучыні, бо будучыня не проста даецца Богам, але павінна быць заслужаная намі.

**Вольга ІПАТАВА.**

ЗАМЕЖЖА

# БЕЛАРУСКІЯ ЯЎРЭІ Ў ІЗРАІЛІ

● **Эмануіл ІОФЕ,** *акадэмік Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей, прафесар, доктар гістарычных навук.*

У 1995—1998 гадах з Рэспублікі Беларусь эмігрыравала ў Ізраіль у сярэднім па 2 500 чалавек. Такім чынам, колькасць яўрэяў і неяўрэяў-эмігрантаў за гэты час склала каля 10 тысяч чалавек.

Як жа жывуць нашы землякі ў Ізраілі, як яны ўладкаваліся, працуюць, вырашаюць свае праблемы? Нас, у першую чаргу, цікавіць алія 90-х гадоў.

Рыгор **Разінскі** (Цві Раз) нарадзіўся ў верасні 1926 года ў яўрэйскім мястэчку Паддабранка, якое знаходзілася на мяжы Беларусі і Украіны. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Выпускнік факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў у газеце "Гомельская праўда". Аўтар дакументальных аповесцей "Гомель, год сорак першы" (1960), "Маладая гвардыя Гомеля" (апублікавана ў часопісе "Огонёк"), "Смугнар" (1986), "Ракавы выстрал", серыі кніг аб рыбалцы.

У 1990 годзе рэпатрыіраваўся ў Ізраіль. Гэта адбылося ў 54-гадовым узросце, аднак, як кажуць, не прапаў. Адразу пачаў працаваць у газеце "Навіны тыдня". Тут і ў часопісе "Круг" надрукаваў больш за 20 нарысаў аб выдатных прадстаўніках яўрэйскага народа: Бабелі, Бернесе, Дунаеўскім, Каверыне, Ландаў, Месінгу, Міхоэлсе, Плісецкай,Ранеўскай, Уцёсаве, Эрэнбургу і іншых. Павінна выйсці кніга Рыгора Разінскага, якая напісана на падставе гэтых нарысаў.

Акрамя газетнай працы, Разінскі разам з дачкой — мастаком-графікам заснаваў выдавецтва "Кругозор". За апошнія чатыры гады ён выдаў 22 кнігі, сярод якіх асаблівай папулярнасцю карыстаецца серыя "Катастрофа ў маім лесе". У 1999 годзе гэта выдавецтва выпусціла ў свет мемуары былога вязня Мінскага гета Абрама Рубенчыка пад назвай "Мая праўда аб Мінскім гета".

Аркадзь **Зэльцэр** нарадзіўся ў 1961 годзе ў Віцебску. Ён скончыў Віцебскі тэхналагічны інстытут і працаваў інжынерам. У 1989—1990 гадах быў супрацоўнікам рэдакцыі часопіса "Советіш Геймланд" ("Советское Отечество"). У снежні 1991 года А. Зэльцэр выехаў на пастаяннае месца жыхарства ў Ізраіль. Сёння ён сарэдактар часопіса "Яўрэі ва Усходняй Еўропе" (на англійскай мове), які выдаецца Цэнтрам па даследаванню і дакументацыі ўсходнееўрапейскага Яўрэйскага універсітэта ў Іерусаліме. А. Зэльцэр — аўтар шэрагу навуковых работ па гісторыі яўрэяў Расіі, Савецкага Саюза, Беларусі, апублікаваных у Расіі, Беларусі і Ізраілі. З кастрычніка 1992 года піша дактарат на тэму: "Яўрэі Віцебска ў 1917—1941 гадах". І тут Зэльцэр сутыкнуўся, як кажуць, з шэрагам праблем. Першая з іх — ён былы інжынер. Фармальную гістарычную адукацыю прыходзілася атрымліваць спачатку. Слухаў курсы па гісторыі яўрэяў Польшчы, Расіі і Савецкага Саюза ва універсітэце. Адначасова працаваў у Цэнтры па даследаванню і дакументацыі ўсходнееўрапейскага яўрэйства, а з 1995 года — падпрацоўваў у Яд ва-Шэме, у зале імён. Затым Зэльцэр працаваў над зборам матэрыялаў для Кароткай яўрэйскай энцыклапедыі.

Леанід **Смілавіцкі** ў 1977-м скончыў гістарычны факультэт Мінскага педінстытута, у 1980—1992 гадах выкладаў у Мінскім інстытуце культуры, быў дацэнтам кафедры гісторыі СССР, БССР і замежных краін.

У Ізраілі з кастрычніка 1992 года. Першы год быў вельмі цяжкім. Смілавіцкаму пасля доўгіх пошукаў удалося ўладкавацца памочнікам загадчыка гаспадаркі аднаго з басейнаў. З 1993 года працаваў навуковым супрацоўнікам сусветна вядомага Мемарыяльнага інстытута Яд ва-Шэм, а з 1995-га да цяперашняга часу — навуковы супрацоўнік Інстытута яўрэйскай дыяспары пры Тэль-Авіўскім універсітэце, супрацоўнічае з фондам Стывена Спілберга ў Лос-Анджэлесе, Інстытутам яўрэйскай палітыкі ў Лондане, Інстытутам вывучэння Халакоста ў Вашынгтоне, рэдакцыяй Кароткай яўрэйскай энцыклапедыі ў Іерусаліме. Леанід Смілавіцкі даследуе гісторыю Беларусі XX стагоддзя. Ён публікуецца на іўрыце, англійскай, рускай і беларускай мовах у Ізраілі, Вялікабрытаніі, Злучаных Штатах Амерыкі, Расіі і Беларусі.

Жонка Леаніда — Вікторыя **Смілавіцкая** (Пакава) нарадзілася ў Ленінградзе ў 1964 годзе, скончыла педвучылішча і Мінскі інстытут культуры па спецыяльнасці "харэаграфія", працавала харэографам у адной з мінскіх школ. Першыя тры гады ў Ізраілі было вельмі цяжка. Потым яна пачала працаваць кіраўніком дзіцячых танцавальны[х] гурткоў у Іерусаліме. З 1995 го[да] — у Іерусалімскай кансерваторыі ("Асадна") харэографам. У яе 8 дзіцячых груп. Між іншым, у Вікторыі Смілавіцкай вучацца дзеці міністра ізраільскага ўрада Натана Шчаранскага.

Лілія **Беленькая** нарадзілася ў горадзе Гродне ў 1957 годзе. Яна скончыла гістарычны факультэт Гродзенскага універсітэта, абараніла дысертацыю на ступень кандыдата гістарычных навук. У 1991 годзе прыехала ў Ізраіль. Цэлы год Л. Беленькая працавала ў пральні ў горадзе Ход-Ашхарон каля Тэль-Авіва. У 1992-м яна прайшла гутарку ў Тэль-Авіўскім універсітэце і атрымала стыпендыю імя Шапіры — стыпендыю Міністэрства абсорбцыі (гэта звычайны шлях абсорбцыі вучоных-рэпатрыянтаў, што прыехалі з СНД і іншых краін, якія маюць кандыдацкую ступень і нейкія публікацыі). Пасля прайшла праграму працягу абсорбцыі вучоных пад назвай "Гіладзі" (па і[мі] аднаго з прафесараў — ініцыятараў гэтай праграмы). З канца 1998 года Лілія Беленькая прынята ў доўгатэрміновую праграму абсорбцыі вучоных-рэпатрыянтаў "Камея" (праграма пастаяннага працаўладкавання). На ўсю краіну па такой праграме працуе толькі 500 чалавек. Цікава, што з 770 тысяч рэпатрыянтаў, якія прыехалі ў Ізраіль за апошнія 10 гадоў, вучоныя складаюць 12,5 тысячы чалавек. Частка з іх знайшла сябе ў прыкладной навуцы. Асноўная праблема — працаўладкаванне.

У цяперашні час Лілія Беленькая працуе ў Інстытуце тэорыі сіянізму пад кіраўніцтвам прафесара Горні над тэмай "Інтэграцыя інтэлігенцыі з Савецкага Саюза ў ізраільскае грамадства" на матэрыяле дзвюх хваль алііі (1970-я і 1990-я гады). Яна з'яўляецца аўтарам шэрагу навуковых прац, апублікаваных у Беларусі, Расіі, Ізраілі.

Разам з Ліліяй у 1991 годзе ў Ізраіль прыехаў яе муж — кандыдат медыцынскіх навук, выпускнік Гродзенскага медінстытута Аляксандр **Шнейдэр**. Спачатку ён працаваў на ўборцы вуліц, а ў верасні 1991 года пасля прачытання лекцыі па тэме свайго даследавання быў прыняты на працу даследчыкам у адну з бальніц Тэль-Авіва. Праз тры гады (пасля заканчэння дзеяння гранта) Шнейдэра звольнілі. На працягу амаль двух гадоў ён даглядаў старых. З 1995-га працуе ў медыцынскім цэнтры імя Яфе Інстытута рэнтгена.

Пачатак у № 4.



## ЛІТАРАТУРНАЯ ГАСЦЁЎНЯ



**Мікола ГІЛЬ (Мікалай Гілевіч, Сымонаў сын) нарадзіўся на Лагойшчыне, непадалёк ад Мінска, у кастрычніку 1936 года, за два месяцы да ўвядзення Сталінскай канстытуцыі. Пражыў пад "яе сонцам" дваццаць гадоў, за якія паспеў скончыць вясковую сярэднюю школу (на той час яшчэ беларускую, бо пасля 1961 года, калі М. Хрушчоў пахваліў беларусаў за шпаркую хаду да камунізму, што найперш выяўлялася ў масавым "адмаўленні" ад роднае мовы, іх паўсюдна практычна не стала) і паступіць на аддзяленне журналістыкі філфака БДУ імя У. І. Леніна.**

**Другі раз нарадзіўся на свет у 1956-м, калі студэнтам слухаў даклад таго ж Хрушчова на XX з'ездзе КПСС аб выкрыцці культу асобы Сталіна. Пазней прадстаўнікоў тагачаснага маладога пакалення назавуць дзецьмі XX з'езда, хрушчоўскай адлігі, "шасцідзесятнікамі".**

**Амаль адразу ж пасля БДУ М. Гіль пачаў працаваць у газеце "Літаратура і мастацтва", прайшоўшы тут шлях ад літаратурнага супрацоўніка да загадчыка аддзела, адказнага сакратара, намесніка галоўнага рэдактара, а ў 1990 годзе, у канцы перабудовы і напярэдадні распаду СССР і набыцця Беларуссю незалежнасці, узначаліў рэдакцыйны калектыў штотыднёвіка. На гэтай пасадзе быў да канца 1996 года. Апошнія два гады — 1995-ты і 1996-ты — улады "літасціва" трывалі яго на гэтай пасадзе, бо "ЛіМ" аніяк не хацеў мяняць сваю выразна акрэсленую адраджэнскую, незалежніцкую, дэмакратычную пазіцыю, і спіхнулі непакорлівага рэдактара адразу ж, як толькі ён дасягнуў пенсійнага ўзросту.**

**У "ЛіМе" М. Гіль заявіў аб сабе і як літаратар, акурат на старонках штотыднёвіка апублікаваўшы свае першыя апавяданні. За тры дзесяткі (з гакам) гадоў выдаў некалькі кніг апавесцяў і апавяданняў, займаўся перакладамі, дапамог напісаць кнігі "бывалым" людзям (былому партызану Р. Мачульскаму, касманаўту-беларусу П. Клімуку). Прафесійным літаратарам сябе не лічыць, на хлеб штодзённы зарабляў і зарабляе журналісцкаю, газетнаю працаю.**

**У анатацыі да адной з кніг М. Гіля гаворыцца: "У цэнтры ўвагі аўтара — людзі, іх жыццё, клопаты, радасці і цяжкасці, праблемы ўзаемаадносін бацькоў і дзяцей, выхавання моладзі, маральна-этычныя канфлікты, якія ўзнікаюць на стыку горада і вёскі. Многія творы падкупляюць сваёй жыццёвай праўдай". Пра гэта, бадай, сведчыць і апавяданне, а па сутнасці невялікі абразок "Эвалюцыя", напісаны ў 1987 годзе.**

# ЭВАЛЮЦЫЯ

— Ах, падружка мая дарагая, гэта ж колькі мы з табою не сядзелі вось так, вочы ў вочы? Цэлае жыццё, кажаш? Так, так, сапраўды цэлае жыццё. Азірнешся — не верыцца, што столькі гадкоў праляцела. Столькі хочацца табе расказаць, а з чаго пачаць, дык і не ведаю. Усё спадзявалася калі-небудзь сустрэцца з табою і перагаварыць пра ўсё на свеце, бо што — пісьмы? Пісьмы адно для таго, каб напомніць — жывём мы яшчэ на свеце і памятаем адна пра адну. А болей што ў іх скажаш? Душу не вывернеш. Развучыліся мы такія пісьмы пісаць. Ды і не ўмелі. А ўсю ноч прагаварыць — умелі! Памятаеш? Дзяўчаткі спяць усе, дрыхнуць, як чэмеру наеўшыся, а мы з табою шэпчамся, спавядаемся адна адной. Якія шырокія падаконнікі былі ў нашым старым інтэрнаце! Мы сядзелі, падкурчыўшы пад сябе ногі, і гаварылі. Марылі. Як Наташа Растова. Ці гэта Соня там на падаконніку пры месяцы марыла? Не смейся, я ўжо старая склератычная баба...

Дык што ж ты хочаш пачуць ад мяне сёння? Як жыла я ўсе гэтыя гады? Жыла. Жыла, як усе жылі. Як усе афіцэрскія жонкі жылі. Нецікава жыла, падружка. Шэра. Аднастайна. Адумалася я...

Ты помніш, якая шчаслівая была я, калі пазнаёмілася з Алегам? На сёмым небе ад шчасця была. Ты думаеш, я не бачыла, як вы ўсе зайздросцілі мне? Бачыла, і на злосць вам была яшчэ шчаслівейшая. На трэцім курсе была, калі атрымаў Алег дзве зорачкі. Атрымаў, падхапіў пад адну руку мяне, у другую чамадан, і паехалі мы ўсё на ўсход і на ўсход, ажно ў Хабараўскі край. Ды што я табе пра гэта кажу? Гэта ты ведаеш. Сама мяне праводзіла. У маю Сінягорыю. Апынуліся ў ваенным гарадку. Работы мне — аніякай. Ды я не перажывала. Там нас было нямала, такіх зялёных і недавучаных. Весяліліся, як умелі. Сябравалі сем'ямі. Адна адну вучылі і падтрымлівалі. Асабліва пасля таго, як пасыпаліся ў нас — адзіночныя і залпамі — дзеці. Алег мяне любіць, я — Алега, а разам мы — нашага Ігарка. Што больш трэба? Пра што яшчэ думаць? Пра тое, што трэба было б інстытут скончыць? Дзе і як? Ат, паспеецца яшчэ, жыццё ж наперадзе! Да ўсяго — кватэрка цесненькая і халодненькая, Ігарок наш хварэе і хварэе. Урачы раяць памяняць клімат — на сушэйшы.

На сёмы год дамогся Алег пераводу. Апынуліся па гэты бок Урала, у так званай сярэдняй паласе Расіі. Зноў не ў горадзе, а ў ваенным гарадку. Праўда, жыллё лепшае, чым у Сінягорыі. Сучасная двухпакаёвая кватэрка з усімі выгодамі. І школа побач. І ў школе той работа мне знайшлася — бібліятэкаркай. Грошы невялікія, вядома, але ж, ты ведаеш, не грошы мне патрэбны былі, а работа. З піянерскай энергіяй старалася нешта рабіць, але...

Згаварыліся мы з Алегам на другое дзіцятка. Радзіла Ірачку. Ірачку радзіла, а работу страціла. Бо зноў пачалося ўсё тое ж — бясконцыя хваробы. Алег вечна на службе, я з дзецьмі — Ігарка ў школу, са школы, з малой то на вуліцу, то з вуліцы. І зноў па маёй вучобе. Калі папраўдзе, падружка, дык ужо не надта і азывалася ўва мне тое жаданне да вучобы. Абабілася, адзецілася — якая, трасца ў бок, вучоба? Часам, праўда, набяжыць нешта, затрымціць душа, забаліць — юнацтва ўспомніцца, шэпты нашы, мары, сны дзявочыя. Тады ціхенька, сам-насам паплачаш у падушку. А пасля азірнешся кругом — ці ж ты адна такая? Чым ты лепшая?

Вось так, падружачка ты мая... Без работы, вядома, не сядзела. Вязаць навучылася, шыць. Усё, што на мне і на Ірачцы, сама шыла, сама вязала. Вышываннем займалася. Цэлыя дываны вышывала. Многае павыкідвала, а сёе-тое зберагла, пакажу калі-небудзь. Алег з кожным годам усё вышэйшы бал ставіў за мае кухарскія здольнасці...

Трохі акрыяла, як за мяжу трапілі. У Чэхаславакію. Здаецца, душою акрыяла. Там і людзі цікавейшыя — нашы ж людзі, але як адбор іншы, і жыццё цікавейшае. Хоць — як сказаць? Там прыдбаць сёе-тое можна было, і мы адна перад адною, навыперадкі — як згаладалыя на хлеб з маслам. Эканомілі на ўсім, абы нешта купіць — дываны, люстры, вазы, транты розныя. Кожны водпуск едзеш у Саюз — чамаданы не падняць... Зараз успомню, і брыдка робіцца: як жа мы перад тымі самымі чэхамі і славакамі выстаўляліся! Ні краіны для нас не існуе, ні культуры яе, мастацтва, адно — магазіны. І я паддалася эпідэміі. Пагарджай мною, а — праўду кажу: паддалася. Здавалася, што з одумам куплю, з развагаю, а як пагляджу зараз — дык хапала, што пад руку трапляла, ад такіх жа сваіх падружак не адставала...

З Чэхаславакіі апынуліся ў Закаўказзі. Там я вельмі хутка зламалася. Канчаткова атупела і абабілася. Ігарок наш, яшчэ мы ў Чэхаславакіі былі, у інстытут паступіў. У Мінску. Я толькі ў Мінск падганяла. Алег хацеў, каб у Маскву, а я — у Мінск. У Мінску больш надзейна. І сваякі мае там. Калі што, дык ёсць да каго звярнуцца. А Ірачка ўжо там, у Грузіі, школу канчала. Яе мы таксама ў Мінск паслалі, на універсітэт. Ігарок к таму часу з арміі вярнуўся, інстытут канчаў, дык і Ірачка да яго, пад яго крыло. А мы з Алегам там, у Закаўказзі нашым. Гарадок, скажу, яшчэ той. Брудна, пыльна, свінні і козы па вуліцах ходзяць. Мух — не ўяўляла, што можа быць іх столькі. У Алега па службе — клопатаў не абрацца. Пасля Чэхаславакіі як у пекла трапілі і ён, і я. Ён ніяк кантакту з начальствам не можа знайсці, развал усюды, а ўсё вакол — на блаце і знаёмстве, я табе — ты мне, інакш нічога не даможашся, нічога не пабудуеш і не адрамантуеш. Алег мой к таму часу маёрам стаў, начальнікам тэхніка-эксплуатацыйнай часткі, на яго плячах будаўніцтва і рамонт. Б'ецца, стараецца, сварыцца з усімі, а — толку мала, парадку няма. Ну і я — без дзяцей ужо, вольная казачка, а работы — няма. Дзень, тыдзень, месяц прайшоў — да чаго рукі прыкласці? Абрыдлі і шыццё, і вышыўка, і вязанне. Нарэшце ўбілася пашпартысткай у домакіраўніцтва. Хоць які, а ўсё ж — занятак... Так, удваіх, дацягнуў мой Алег неяк да пенсіі. Падпалкоўніка так і не далі, маёрам выпхнулі. Што рабіць, куды падацца? Паехала я ў Мінск, абышла сваякоў і знаёмых. Як бы там ні было, а перабраліся ў Беларусь. Спачатку пад Мінск, а пасля і ў Мінск — Ірачка замуж паспела выскачыць за мінчука, у сталіцы засталася пасля універсітэта. А Ігарок — у Барысаве, таксама недалёка. На кватэру ў Мінску ўзбіліся — невялікую, "хрушчоўку"-паўтарачку, ды мы з Алегам, на дваіх нам большая і не патрэбна, радыя — як у маладосці. Можна жыць, як кажуць, прыпяваючы. А вось жа няма радасці. Няма, падружачка, хоць і кажу пра радасць. Ці я сама вінавата, ці што іншае, а няма радасці. Нуда. А яна ж, кажуць, горш за каросту. Смокча і смокча. І работа не ратуе...

Я ўспомніла сваю колішнюю работу ў бібліятэцы і тут у бібліятэку ўладкавалася. Калектыў невялікі, чыста бабскі. Думала, я адна ўкаржанела, атупела ад бяздзейнасці, абмяшчанілася, ажно, гляджу, ці не ўсе мы, бабы, аднолькавыя. Маладыя дзяўчаты ёсць сярод нас, а і тыя — з кніжкамі працуюць, а кніжак амаль не чытаюць, больш транты розныя ў галаве. Я рвалася ў Мінск, хацелася вярнуцца да жыцця нармальнага — каб і ў тэатр схадзіць, і на выстаўку збегаць, і кіно новае не прапусціць, — ну, як тады, у студэнцкія гады, мы не прапускалі. А тут, бачу, жывуць дзяўчаткі і кабеты ў сталіцы, а паводзяць сябе так, быццам тут няма ні тэатраў, ні філармоніі, ні музеяў, а адны толькі ЦУМы і ГУМы. Толькі пра тое і гавораць, дзе і што хто прыдбаў ці дастаў.

А чытачоў днём з агнём шукай, толькі ў час сесіі трошкі паяўляецца, дык нашы калежанкі адно і ведаюць, што стракатаць па-сарочы...

Прыйду дадому, а і тут, падружачка мая, мала радасці. Грэшна мо і казаць, але свайго Алега я ўжо і не ведаю, люблю ці шкадую толькі. Мусіць, шкадобы ў мяне да яго больш, чым чаго іншага. Былі коні, ды з'ездзіліся, як мама казала. Быў некалі арлом мой Алег, ты ж памятаеш, а цяпер і не ведаю, з кім параўнаць. Пакуль служыў, дык, здаецца, нешта трапяталася ў ім... Ну, парадку дамагаўся, дысцыпліны патрабаваў, з разгільдзяйствам змагаўся, спуску не даваў... А цяпер адно бачыць — дачу і аўтамабіль. Свет на іх клінам сышоўся!..

Ён жа на пенсію маладым пайшоў — усяго сорак шэсць гадоў было, як і мне. Гэта ж, даўней казалі, яшчэ і ў кавалерах у такім узросце хадзілі. А ён, лічы, дзед ужо — унукаў, праўда, не было яшчэ, але дзеці ўжо пабраліся. Думала, на работу якую пойдзе — каб па сваім ваенным дыпломе, каб, можа, завочна і на інстытут яшчэ замахнуўся. Дык — не! Машыну набыў, а пасля ў дачу ўкляпаўся. На работу ўладкаваўся толькі дзеля прыліку. На аўтастаянку, дзяжурным-вартаўніком. Суткі аддзяжурыць, тры — дома, часцей на дачы корпаецца. Думала, часова там прыткнуўся, каб месца для машыны займець, а як асмакаваўся, дык і ўпадабаў. Кажа: а што больш трэба? Пенсія, кажа, у мяне немалая, плюс яшчэ гэтых вартаўнічых сто рублёў — досыць. Затое час маю, кажа, і на дачу, і на грыбы-ягады, і на рыбалку. А яшчэ, смяецца, і прыварак у мяне ёсць. І паказвае пакамечаныя рублёўкі, як прыходзіць з дзяжурства. Гэта ж просяцца паставіць машыну на ноч-другую, дык тыцкаюць пасля, як забіраюць, яму рублёўкі...

А я гляджу і ледзь не плачу. Мой жа ты Алежак, быў ты князем, а цяпер пляснуўся мордай у гразь, ці не рады гэтай рублёўцы пакамечанай...

Вось я табе і расказала, падружачка, як жыву-маюся. А ты слухай, ды, можа, не вер усяму, што я тут табе набаяла. Ты ж сама баба і ведаеш, якія мы, бабы, бываем жорсткія і няўдзячныя. Вось і я. Ужо і на Алега свайго панесла...

А ён жа мяне як маладую любіў, так і цяпер любіць. Цяпер мо яшчэ мацней, надзейней. Ніколі іначай не назваў, як Вярунькай. А то яшчэ і Вярунечкай-мурачкай і лапачкай мышастовенькай... А мне ўжо гэта анігадкі, як той казаў... Хто гэта ў нас на курсе гэтак гаварыў? Ай, склероз! Ага, Грышка Лабада, ён жа аднекуль з Палесся быў і ўсё свае анігадкі, дзе трэба, і не трэба, паўтараў... Дык вось, мая ты дзевачка, мне ўжо і тое анігадкі. Не грэе, як калісьці. Нам, бабам, трэба, каб Вярунькай нас называлі арлы, моцныя і гордыя, а калі шэранькі верабейка ля цябе вярунькае, дык то ўжо не заўсёды і чуеш, табе ўжо гэта вуха не лашчыць, не кажучы пра што іншае. І не задумваемся, не хочам задумвацца, што гэта ж недзе мы самі і зрабілі з колішняга арла верабейку шэранькага. Арол высока і хораша лятае, а шэры верабейка, зірні, аб сямейцы дбае... Вось мы свайго арліка і пачынаем на зямлю спускаць: досыць, дурненькі, лунаць, пара і дзетак карміць, аб іх будучыні падбаць. Звязваем яму крылы ўсё тужэй і тужэй, а каб было зусім спакойна, яшчэ і падрэжам яму крыльцы тыя, і адзін раз падрэжам, і другі... А там, глядзі, спахопімся, што замест арліка скача ля нас шэранькі верабейка. Вось тады мы і заплачам, і абурымся, і зажурымся: я ж выходзіла замуж не за верабейку...

Ах, падружачка ты мая адзіная-разадзіная, пагаварыла я з табою, як калісьці, як даўным-даўно гаварылі, і стала мне лягчэй на душы. Мо дарэмна я нагаварыла і на сябе, і на Алега свайго, і на жыццё нашае. Не ўсім жа быць арламі. Некаму трэба быць і вераб'ём. Ці не так? Ах, мая дзевачка, мо і так, толькі ж — слабое гэта суцяшэнне. Асабліва калі верабейка, вяртаючыся з дзяжурства, дастае з кішэні пакамечаныя рублёўкі, а то і капейкі, цёплыя не ад ягонага цяпла, а ад чужога... Але, але адчуванне такое, што і рублі гэтыя, і капейкі яшчэ зберагаюць цяпло нейчых чужых далоняў. Ці ж узляцець ужо калі-небудзь гэтаму верабейку арлом? Не, падружачка, не ўзляцець... Не ўзляцець...

**Мікола ГІЛЬ**

ДЭБЮТ



Дзіма Дзем'янкоў — вучань 9 "В" класа сярэдняй школы № 7 горада Мінска. Яму 15 гадоў.

У маленстве, як і ўсе дзеці, Дзмітрый вельмі любіў маляваць, ляпіць з пластыліну. І вось аднойчы бацькі, глянуўшы на малюнак сына, знайшлі, што чалавечкі нагадваюць Дзіміных дзядулю і бабулю ды яшчэ такія смешныя. З таго часу, а было яму тады шэсць гадоў, Дзіма і пачаў маляваць карыкатуры, сяброўскія шаржы.

Чым толькі ён ні захапляўся: тры гады танцаваў у народным фальклорным ансамблі "Жавароначкі", займаўся фехтаваннем, футболам, барацьбой, пяцібор'ем, гуляў у шахматы, шашкі. Зараз наведвае секцыю рукапашнага бою, а таксама яго захапілі ў палон струны гітары. Але заўсёды, чым бы хлопец ні займаўся, неад'емнай часткай яго жыцця застаюцца карыкатуры і шаржы. "Вобразы, сюжэты неяк самі з'яўляюцца ў думках", — кажа Дзіма. Ужо гады тры, як ён сваіх герояў яшчэ і з гліны лепіць.

Гледзячы на работы, размаўляючы з Дзімам, я думала: "Як цудоўна, што ёсць такія творчыя дзеці".

Святлана КАРПУЧОК.










ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

# ЧАМУ НЕЛЬГА ВІТАЦЦА ПРАЗ ПАРОГ?

"Ад парога хату не мятуць", — вучыць народная мудрасць. І такіх прыкмет, абрадаў, народных звычаяў, звязаных з парогам, вельмі шмат. І гэта не дзіўна: як і печ, ён з'яўляецца незвычайным месцам у доме.

Раней лічылася, што пад парогам жывуць душы памёрлых продкаў, таму на парог нельга было садзіцца і тым больш станавіцца. Асабліва гэтага асцерагаліся хлопцы і дзяўчаты (інакш іх чакае адзінота), а таксама цяжарныя жанчыны, бо дзіця магло нарадзіцца з дрэннай памяццю. Каб пазбегнуць у будучай сям'і сварак, маладыя пры ўваходзе ў царкву для вянчання стараліся не наступіць на царкоўны парог.

Існавалі і такія правілы: гасцей трэба сустракаць, выходзячы за парог; нельга вітацца праз парог — гэта можа прывесці да спрэчкі. Верылі таксама, што чалавека, які ўваходзіць у хату, чакае непрыемнасць, калі ён спаткнецца аб парог. Калі ж хто-небудзь спатыкаецца аб парог, выходзячы, — то быў знак, што гэты чалавек сюды хутка вернецца.

Да сённяшняга часу захаваўся і добра ўсім знаёмы звычай "прысесці на дарожку". Перад самай паездкай людзі абавязкова знаходзілі хвілінку для таго, каб прысесці моўчкі перад парогам і звярнуцца ў думках да душ продкаў, папрасіць у іх дапамогі ў падарожжы.

З'яўляючыся своеасаблівым рытуальным месцам, парог часта выкарыстоўваўся ў народнай медыцыне. Напрыклад, каб ніхто не сурочыў дзяцей, іх купалі на парозе, прычым ваду на іх лілі праз рэшата. Дзіцячы перапуд лячылі перасяканнем на парозе 12 дубчыкаў ад старога веніка. Дзяцей, якія хварэлі астматычнай задышкай, клалі каля парога, пакрывалі кажухом і пераганялі праз парог некалькі авечак. Лічылася, што авечкі, пераступаючы парог і хворае дзіця, забіраюць з сабой і хваробу.

Часам парог выкарыстоўваўся і ў любоўнай магіі. Так, дзяўчына, якая хацела закахаць у сябе хлопца, брала з новага веніка дубец і клала яго каля парога свайго выбранніка. Пасля таго, як хлопец пераступаў яго, несла гэты дубец у лазню, кідала на палок і казала замову: "Як сохне гэты дубец, няхай так сохне па мне раб Божы (імя)".

Ведзьмакі і чараўнікі таксама выкарыстоўвалі парог у сваіх мэтах: калі яны жадалі наслаць на некага хваробу, то абсыпалі парог гэтага чалавека "нагаворанай" соллю — соллю, над якой сказалі адпаведную замову. Магчыма, адсюль і ідзе ўжыванне слова насаліць — у значэнні некаму нашкодзіць, зрабіць нешта дрэннае?

З парогам звязаны і некаторыя вясельныя звычаі. Напрыклад, раней малады абавязкова ўносіў сваю жонку ў хату на руках, пераносіў яе цераз парог. Тым самым ён нібыта падкрэсліваў сваю еднасць з жонкай, прасіў продкаў адносіцца да яе так жа, як і да яго. Звычай гэты распаўсюджаны і сёння, але зараз гэта ўспрымаецца толькі як праяўленне кахання маладых.

Чаму ўсё ж такі хату трэба месці да парога? Справа ў тым, што смецце, пыл, якія засталіся ад чалавека, — гэта частка самога чалавека. І месці смецце да парога — значыць, "даручаць" чалавека ахове духаў продкаў. Менавіта таму смецце нельга выкідаць з хаты — праз яго нячыстая сіла можа наслаць на чалавека розныя непрыемнасці. Рэшткі гэтых уяўленняў захаваліся да нашых дзён. Таму і зараз у дзень ад'езду гасцей гаспадары не вымятаюць смецце, не мыюць посуд і падлогу — каб нічога не пашкодзіла людзям у дарозе.

Падрыхтавала Нэлі ПРЫВАЛАВА.

ПАЛЕСКІЯ ГІСТОРЫІ Міколы КАПЫЛОВІЧА

## ЧАРАПАХІ

Недасведчаны чалавек, мабыць, думае, што на ўсім свеце жывуць толькі стэпавыя ды марскія чарапахі, а ў нашай Беларусі іх ніколі не было, няма і не будзе. Маўляў, не падходзіць ім тутэйшы клімат. Вельмі памыляецца такі чалавек. Чарапахі жывуць і ў нас. З таго часу, калі на месцы Палесся стаяла мора, якое называлася Герадотавым. Мора даўно знікла, замест яго ўтварылася балота. І марскія чарапахі, як кажуць, перакваліфікаваліся: сталі балотнымі.

Улетку яны кормяцца водарасцямі, карэньчыкамі балотных раслін, а на зіму кладуцца на дно і заміраюць да самай вясны, спяць летаргічным сном, як гадзюкі, вужы, жабы.

Ступаю па беразе ляснога возера, балоцістага, зарослага маркоўнікам. І раптам пад самым маім носам заварушылася і пасунулася да вады нешта ржавае, круглае, падобнае на супрацьтанкавую міну мінулай вайны. Дзіўная істота падпаўзла да возера — і боўць у твань. За ёю, марудна пераступляючы ногі, нібы ішла на мыліцах, папаўзла да вады і другая. Ногі, заўважыў я, перапончатыя, як у гуся. Гэта каб лягчэй было плаваць у вадзе. "Балотныя чарапахі", — адразу зразумеў я. Зірнуў на возера — разлезлую спарахнелую калоду абселі, абклалі з усіх бакоў чорнымі сподачкамі меншыя чарапашкі. Гэта грэецца на сонцы маладое пакаленне.

Пачаў хадзіць па беразе, шукаць гнёзды чарапах, бо з кніжак ведаў, што чарапахі кладуць яйкі заўсёды на берагах ці ў гарачым пяску. І неспадзявана знайшоў, разгробшы леташняе месца пад гнілым пнём, які тырчаў на сонцапёку. Аж дзесяць белых, нібы галубіных, яек ляжала ў гняздзе.

Праз месяц наведаў возера і зазірнуў пад пень — там было пуста. А на возеры ў гэты час расплываліся кругі. То гулялі маладыя чарапашкі.

СМЯШЫНКІ

* * *

Клоун на арэне глытае іголкі. З залы чуваць з'едлівы голас:

— А вы ж раней шпагі глыталі!

— Глытаў, а цяпер я на дыеце.

* * *

— Як ты думаеш, чым адрозніваўся старажытны чалавек ад цяперашняга?

— Відаць, тым, што ён быў шарсцяны.

ЗОРНАЕ ЗІМОВАЕ НЕБА

Адна з асаблівасцей нашай зімы — яе кароткія дні і доўгія вечары. Самы кароткі светлавы дзень ужо застаўся ў старым годзе, а зіма павярнула свой крок насустрач вясне. І ўсё ж вечар, які рана сыходзіць на зямлю, пакуль што застаецца лепшым часам для назірання за зорным небам. Далёкія зоркі заўсёды вабілі людзей. Адлятаючы з імі ў бязмежны Сусвет, чалавек станавіўся паэтам, музыкам, летуценнікам. Шмат што ў нашым жыцці мы вымяраем па асобных зорках альбо па сузор'ях: надвор'е на наступны дзень, ураджай на бягучы год, жыццёвы шлях намнога ўперад.

Прапануем вам, магчыма ўжо каторы раз, паназіраць разам з дзецьмі за зорным небам і паразважаць разам не толькі пра неба і зоркі, але пра жыццё наогул. Спадзяёмся, што наступныя літаратурныя падказкі дапамогуць вам.

Максім БАГДАНОВІЧ

**Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы**
**У ціхую сінюю ноч**
**І сказаць:**
**"Бачыце гэтыя буйныя зоркі,**
**Ясныя зоркі Геркулеса!**
**Да іх ляціць наша сонца,**
**І нясецца за сонцам зямля.**
**Хто мы такія!**
**Толькі падарожныя, — папутнікі**
**сярод нябёс.**

**Нашто ж на зямлі**
**Сваркі і звадкі, боль і горыч,**
**Калі ўсе мы разам ляцім**
**Да зор!"**

ЗАГАДКІ

**Прыйшла чорна маці, усіх паклала спаці.**

(Ноч).

**Разаслана пасцілка, на пасцілцы рассыпаны сярэбраны пясочак, а пасярэдзіне залаты кружочак.**

(Начное неба).

**На паляне сіняй пасецца конь сівы.**

(Месяц).

**На полі Ярох рассыпаў гарох, стала світаць — няма чаго збіраць.**

(Зоркі).

Падрыхтавала Разалія АЛЕКСАНДРОВІЧ.



«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:

Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Таццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.
Спецыяльныя карэспандэнты Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 372.
Падпісана да друку 7.2.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).